–Людзьмі звацца!
Янка Купала

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЛіМ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ПЯТНІЦА
19
САКАВІКА
1993 г.
№ 12(3682)
КОШТ
3 рублі

## СІМВАЛ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

*25 сакавіка — 75-я ўгодкі Беларускай Народнай Рэспублікі*

***Уладзімір КОНАН: «Абвяшчэнне БНР было гістарычнай неабходнасцю, лагічным завяршэннем беларускага нацыянальнага Адраджэння пачатку ХХ стагоддзя, палітычным увасабленнем нацыянальнай ідэі»***

СТАРОНКІ 3,14-15

## ПАДАРОЖЖА Ў ПРАВІНЦЫЮ

***Галіна ТЫЧКА: «Рускія» ды «палякі» адрозніваюцца між сабой толькі тым, што ў нядзелю адны ідуць у адзін канец Мёраў — да царквы, а другія — у процілеглы, да касцёла. А вось «маскалі» сапраўды з'яўляюцца тут іншароднай этнічнай групай. «Маскалямі» тут называюць рускіх стараверам...»***

СТАРОНКІ 5,12

## СЛОВА, АПЛАЧАНАЕ ЛЁСАМ

***Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ пра зборнік паэзіі беларускай эміграцыі «Туга па Радзіме»***

СТАРОНКІ 6-7

## «СЛУЖЫМ АЙЧЫНЕ»

***Газета Беларускага згуртавання вайскоўцаў***

СТАРОНКІ 8-9

## НІ ФАРАОНУ, НІ САЛЯМОНУ

*«Тутэйшыя»: вакол кінаверсіі*

СТАРОНКІ 10-11

## ВЯДОМЫ АДНЫМ ВЕРШАМ

*Лёс паўстанца і паэта Ялегі Пранціша ВУЛЯ*

СТАРОНКА 16





***Сёння а 17-й гадзіне ў філармоніі -- урачысты вечар і канцэрт, прысвечаны 60-годдзю Беларускай акадэміі музыкі. На стар. 11-12 гэтага нумара рэктар акадэміі, народны артыст рэспублікі прафесар Міхал КАЗІНЕЦ адказвае на пытанні карэспандэнта "ЛіМа"***



*Фота Уладзіміра ВІТЧАНКІ*

# КОЛА ДЗЁН

*Расія патанула ў барацьбе за ўладу паміж прэзідэнтам і спікерам парламента, Расія развальваецца на вачах і цягне за сабою ў бездань краіны былога СССР, якія не паспелі наладзіць новых эканамічных сувязей і прывязаны да расійскіх сыравінных запасаў. Здавалася б, пасля апошніх падзей у суседняй дзяржаве толькі вельмі непрадбачлівы і абыякавы да будучыні чалавек можа заклікаць да арыентацыі выключна на саюз з Расіяй, якая гульнямі ў «сусветныя цэны» абабрала нас і зрабіла сваімі даўжнікамі. Аднак менавіта ў апошні час зноў чуюцца словы, што без саюза з Расіяй Беларусі не выжыць. Заклікаюць да еднасці з вялікім суседам прафсаюзы і камсамол, адстаўнікі і неакамуністы, В.Кебіч распрацоўвае ідэю Кансультатыўнага камітэта, які «з часам можа стаць каардынацыйным эканамічным органам Садружнасці», намеснік Старшыні ВС Беларусі В.Кузняцоў у інтэрв'ю «Народнай газеце» сцвярджае, што Беларусь «у асноўным арыентуецца на Расію» і г.д. Што ж яшчэ павінна адбыцца ў Расіі, якая нестабільнасць, палітычны і эканамічны крызіс павінны запанаваць, каб нашы кіраўнікі, нарэшце, ачнуліся і падумалі: ці ж туды мы вядзём свой народ? Хіба што грамадзянская вайна... Дык да яе там, мяркуючы па апошніх паведамленнях, ці не блізка.*

## ВІЗІТ ТЫДНЯ

Прэм'ер-міністр Беларусі Вячаслаў Кебіч 16 сакавіка з афіцыйным візітам наведаў Летувіскую Рэспубліку. Падпісаны пагадненні аб свабодным гандлі і аб гандлёва-эканамічным супрацоўніцтве на 1993 год. Дэлегацыю Беларусі прыняў прэзідэнт Летувы Альгірдас Бразаўскас. Урадавая дэлегацыя, пасля падпісання дакументаў, наведала Антакальнскія могілкі, дзе ўшанавала памяць тых, хто загінуў за незалежнасць Летувы. Памяць барацьбітоў за незалежнасць Беларусі, магілы якіх таксама ёсць у Вільні, наша дэлегацыя не ўшанавала, нягледзячы на блізкае 25 Сакавіка.

## КАМЕНТАРЫЙ ТЫДНЯ

У Маскве прайшоў з'езд народных дэпутатаў Расіі. Беларускія газеты поўняцца каментарыямі да яго. Што нам да падзей у, хай і суседняй, аднак чужой дзяржаве? Лепш, чым сказана ў «Звяздзе», не адкажаш. Цытуем: «Для Беларусі зацяжная паласа палітычнага крызісу ў Маскве азначае тое, што над нашай незалежнасцю, над нашай параўнальнай палітычнай стабільнасцю няспынна вісіць дамоклаў меч. Тыя сілы, якія заклікаюць да больш цеснага палітычнага саюза з Расіяй, фактычна цягнуць Беларусь на такі ж шлях дэстабілізацыі і разладу, калі замест таго, каб разам узнімаць краіну з перабудовачных руін, урад, парламент і прэзідэнт дзяруць адзін аднаму чубы, не могучы падзяліць уладу, а народ тым часам гібее ў жабрацтве і не працуе, чакаючы новых рэвалюцый».

## АДМЕТНАСЦЬ ТЫДНЯ

Беларуская Сацыял-Дэмакратычная Грамада, Беларуская Сялянская Партыя, Беларускае Згуртаванне вайскоўцаў і прадстаўнікі некаторых іншых партый і рухаў Беларусі правялі ў Мінску Кансультацыйную нараду патрыятычна-дэмакратычных сіл Беларусі, на якой абмеркавалі адносіны да магчымых у бліжэйшы час выбараў прэзідэнта рэспублікі, да прыняцця новай Канстытуцыі і Закона аб выбарах, а таксама сітуацыю пасля адмаўлення БНФ прыняць удзел у З'ездзе беларусаў свету. Рада БСДГ прапанавала раней правесці да З'езда III палітычную канферэнцыю, на якой адмяніць рашэнне Берлінскай канферэнцыі 1925 года аб скасаванні Беларускай Народнай Рэспублікі. На нарадзе прызнана мэтазгодным правядзенне і З'езда, і канферэнцыі з умовай, што канферэнцыя адбудзецца за некалькі дзён да З'езда і яе рашэнні будуць вынесены на разгляд З'езда.

## ЮБІЛЕЙ ТЫДНЯ

Год назад лідэры пяцідзесяці беларускіх палітычных, патрыятычных, культурных, грамадскіх і дзяржаўных арганізацый і ўстаноў падпісалі Антыкрызіснае пагадненне і стварылі Антыкрызісны камітэт. Увесь год пра ягоную дзейнасць нічога не было чуваць і гэта, відаць, добра, бо створаны ён для дзеяння ў экстрэмальных сітуацыях. На брыфінгу з нагоды юбілею пацверджана, што Антыкрызіснае пагадненне не страціла не толькі сваёй сілы, але і актуальнасці. Удзельнікі брыфінгу адкрыта назвалі, адкуль найперш сыходзіць пагроза нашай незалежнасці: з боку ўсходняй суседкі — Расіі.

## СВЯТА ТЫДНЯ

Ва ўсім свеце, аказваецца, 15 сакавіка адзначаецца як Сусветны дзень абароны правоў спажыўца. У Беларусі адпаведнага закона — Аб абароне правоў спажыўца — пакуль няма: Вярхоўны Савет усё падступаецца да яго. А свята ўжо ёсць.

## ЗДАРЭННЕ ТЫДНЯ

У нядзелю раніцай больш за тысячу бацькоў і дзяцей, што прыйшлі ў Беларускі дзяржаўны акадэмічны тэатр оперы і балета на спектакль «Васіліса Прыгожая», вымушаны былі тэрмінова пакінуць глядзельную залу. З-за кароткага замыкання ўзнік пажар, які быў патушаны літаральна за 20 хвілін. Аднак жыццё Вялікага тэатра парушана: да 25 сакавіка тут не будзе спектакляў: памяшканне патрабуе рамонту.

## КУР'ЁЗ ТЫДНЯ

«Гістарычныя асобы» — так названа выстава, якая адкрылася ў Дзяржаўным мастацкім музеі ў Мінску. Асобы, воскавыя фігуры якіх выстаўлены тут, і сапраўды «гістарычныя» для беларусаў — толькі ў двукоссі: Пётр I, Кацярына II, Павел I, Сувораў, сям'я Мікалая II, кіраўнікі СССР ад Леніна да Гарбачова і інш. Ну ніяк не можам мы прывыкнуць да думкі, што жывём у зусім іншай, у **сваёй** дзяржаве і ў нас ёсць **свая** гісторыя і **свае** гістарычныя асобы (без двукосся).

ДА 75-Й ГАДАВІНЫ АБВЯШЧЭННЯ БНР

# ТАДЫ ЗАЖЫВЕШ ШЧАСЛІВА...

Дарагія суродзічы! Вітаем усіх вас з 75-мі ўгодкамі гістарычнага абвяшчэння незалежнасці Беларусі актам 25 сакавіка 1918 года і жадаем, каб святыя ідэалы незалежнасці, якія былі арыгінальна абвешчаныя патрыётамі беларускага народа 75 гадоў таму назад і зацверджаныя ды паноўна аб'яўленыя парламентам Беларусі ў 1991 годзе, былі як найхутчэй замацаваны для дабра і забеспячэння незалежнай будучыні Рэспублікі Беларусь. Бо, як гаварыў перад смерцю наш вялікі беларускі патрыёт Кастусь Каліноўскі ў 1864 годзе, «тагды зажывеш шчасліва, беларускі народзе, калі над табой акупанта не будзе!»

Мы з сумам наглядаем за дзейнасцю тых, каторыя ў нядаўняй прошласці былі варожым інструментам вынішчэння беларускага народа як асобнай і гістарычнай нацыі, і прыкра бачыць, што іхні чырвоны сцяг (абліты кроўю мільёнаў замардаваных дзетак Маці-Беларусі) зноў паказваецца на беларускай зямельцы...

У сувязі з вышэйсказаным ёсць нагода прыпомніць прыхільнікам камуністычнай партыі, што супрацьлеглыя палітычна-эканамічныя погляды і намаганні ажыццявіць іх для дабра сваёй краіны ёсць ДЭМАКРАТЫЯ, але дзейнасць, скіраваная на знішчэнне Незалежнасці Беларусі, ёсць ЗДРАДА, і ў Канстытуцыі (ці Асноўным Законе) Рэспублікі Беларусь мусіць быць адпаведны раздзел па справах шкоднай унутранай дзейнасці і забеспячэння Свабоды і Незалежнасці Рэспублікі Беларусь.

Таксама тут ёсць нагода параўнаць дзейнасць тых, хто хоча і намагаецца знішчыць незалежную Рэспубліку Беларусь, з дзейнасцю былога палітычнага дзеяча Нарвегіі Квіслінга, якому не падабалася незалежная Нарвегія і якую ён прапанаваў уключыць у межы і пад кантроль Нямеччыны... Характэрна тут дадаць, што нарвежскі трыбунал прызнаў дзейнасць Квіслінга за здраду і вынес яму належны і заслужаны прыгавор.

Яшчэ раз вітаю ўсіх вас з ідэалам незалежнасці Беларусі, абвешчаным нашымі патрыётамі актам 25 сакавіка 1918 года.

Жыве Беларусь!!!

З пашанай да Вас

**Алесь АЛЕХНІК,**
**генеральны сакратар**
**Асацыяцыі беларусаў Аўстраліі**

*Сідней, Аўстралія*

# СВЯТКАВАННЕ: МЕНСК — ВІЛЬНЯ — ПРАГА

**19 сакавіка 17.00.** Дом літаратара. Навуковая Акадэмія.

**21 сакавіка 11.00.** Менск. Пляц Незалежнасці — праспект Ф.Скарыны — сквер Янкі Купалы. Марш БЗВ «За незалежнасць і дэмакратыю». Маніфестацыя і ўрачыстае шэсце дэмакратычных сіл. Удзельнікі маніфестацыі — прадстаўнікі палітычных партый, рухаў, грамадскіх і культурных арганізацый, а таксама дэлегацыі з іншых гарадоў і мястэчак — ідуць пад уласнай і мясцовай сімволікай (сцяг, эмблема руху ці партыі, герб горада). Збор удзельнікаў маніфестацыі на пл.Незалежнасці а 10.30.

**12.00 — 14.00.** Сквер Янкі Купалы. Мітынг, культурная праграма.

**24 сакавіка 17.00.** Менск. Палац мастацтваў. Адкрыццё выставы «Адраджэнне-93» творчай суполкі «Пагоня» Саюза мастакоў Беларусі.

**25 сакавіка.** Беларусь, замежжа. Урачыстыя набажэнствы ў храмах усіх хрысціянскіх канфесій.

**14.00.** Адкрыццё мемарыяльнай дошкі на доме N 9 па вул.(пры БССР Валадарскага) братоў Луцкевічаў у гонар абвяшчэння незалежнасці БНР.

**17.00.** Адкрыццё выставы ў Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі.

**19.00.** Менск. Канцэртная зала Беларускай Філармоніі. Урачысты сход грамадскасці і святочны канцэрт.

**27 сакавіка.** Вільня. Адкрыццё надмагільнага помніка братам Луцкевічам на могілках Росах.

**Красавік — травень.** Паездка дэлегацыі Беларусі ў Прагу. Падзяка ўраду і народу Чэхіі за прытулак беларускай палітычнай эміграцыі кіраўніцтва БНР. Ушанаванне памяці дзеячаў БНР, прадстаўнікоў палітычнай і культурнай эміграцыі Беларусі, пахаваных на могілках Прагі.

ШМАТПАРТЫЙНАЕ ЖЫЦЦЁ

# ХТО ВАЛОДАЕ ЗЯМЛЁЙ...

Абвешчаны ў сродках масавай інфармацыі з'езд Беларускай сялянскай партыі адкрыўся як І-я агульнапартыйная канферэнцыя БСП. Бадай што гэтае непаразуменне засталося адзіным за ўвесь час работы форуму сялянскай партыі.

З дакладамі выступілі намеснік старшыні БСП Іван Нікітчанка і член Рады БСП Міхаіл Антоненка. Яны прааналізавалі ход аграрнай рэформы на Беларусі, выказалі занепакоенасць тым, што мясцовыя ўлады сабатуюць Закон аб зямлі, што наогул ідзе мэтанакіраваны развал усёй эканомікі краіны.

Па дадзеных БСП, на Беларусі дзейнічае сёння звыш 2000 фермерскіх гаспадарак, але пакуль што адсутнічае прававая база для іх развіцця, што, дарэчы, характэрна для ўсёй сельскай гаспадаркі.

Беларуская сялянская партыя выступае за рэарганізацыю калгасна-саўгасных утварэнняў у асацыяцыі, напрыклад, за дзяржаўную і прыватную ўласнасць на зямлю.

Палітычныя мэты БСП былі адлюстраваны ў Звароце да партый і дэмакратычных рухаў, да грамадзян Рэспублікі Беларусь.

«Палітычная, эканамічная і сацыяльная сітуацыя ў нашай краіне дасягнула крытычнай кропкі, набліжаецца час катастрофы», — гаворыцца ў звароце. Далейшае развіццё гэтай тэзы ў дакуменце БСП гучыць наступным чынам: «Вярхоўны Савет не здольны прыняць неабходныя законы. Адкладзены закон аб зямлі, не даведзены да стандарту закон аб прыватызацыі».

БСП прапануе свой шлях вырашэння палітычнага крызісу. Яго сутнасць у неадкладным стварэнні палітычнымі партыямі і рухамі часовага ўрада народнага даверу.

Не думаю, што план, выкладзены ў Заяве БСП, можа быць ажыццёўлены ў бліжэйшы час, але ён цікавы ўжо тым, што яшчэ раз пацвярджае відавочныя рэчы. Сітуацыя ў краіне сапраўды патрабуе кардынальных, я б нават сказаў, хірургічных мер. Па-другое, кожная партыя, незалежна ад яе назвы і напрамку, перш за ўсё змагаецца за палітычныя мэты, а значыць, за ўладу. А валоданне зямлёй — гэта і ёсць рэальная ўлада.

**Яўген ЛЮТЫ**

З НАГОДЫ

# ЗВАНЫ ХАТЫНІ

22 сакавіка спаўняецца пяцьдзесят гадоў з дня Хатынскай трагедыі. Пяцьдзесят гадоў назад невялікая лагойская вёсачка была спалена фашыстамі разам з яе 149 жыхарамі. Доўгі час па вайне яна дзяліла маўклівы лёс поруч з іншымі 185 беларускімі вёскамі, што зніклі ў гады вайны з твару зямлі і больш не адрадзіліся на сваіх пажарышчах. А пасля на месцы Хатыні паўстаў мемарыял спаленых вёсак, і імя яе стала сімвалам трагедыі і мужнасці нашага народа ў гады нямецка-фашысцкай акупацыі.

І вось — трагічны юбілей. І набліжэнне яго падсвечваецца раней не знанымі фактамі, весткамі і дзеямі.

Некаторыя грамадскія арганізацыі звярнуліся ў Вярхоўны Савет з прапановай аб'явіць дзень 22 сакавіка днём ахвяр фашызму. Што на гэта сказаць? Адно толькі: парламент паступіў бы мудра, каб падтрымаў гэтую прапанову.

Заўтра, напярэдадні жалобнай гадавіны, мяркуецца правесці шэсце і мітынг жыхароў сталіцы. Што ж, ушанаваць памяць ахвяр барацьбы з фашызмам — святая, як кажуць, справа. Ды толькі ёсць пагроза, што камуністычныя сілы (а яны ці не ініцыятары гэтых мерапрыемстваў) скарыстаюць шэсце і мітынг найперш для прапаганды сваіх зманлівых і нежыццёвых ідэй і лозунгаў.

І, урэшце, толькі зараз, на пяцідзесятым годзе Хатынскай трагедыі, высвятляецца, што ўчыніў яе не нямецкі карны батальён пад камандаваннем А.Дзірлевангера, а нібыта ўкраінскі паліцэйскі. Вядома, для хатынцаў гэта ўжо ўсё роўна. Хатыні не аднавіць, не вярнуць, а званы над яе бетоннымі зрубамі і мармуровым дахам вогненнай магілы хатынцаў будуць трывожна звінець і надалей, як звінелі дагэтуль. Але, як казаў паэт: і ўсё ж, усё ж, усё ж... Гэта сведчыць, што да трагічных старонак жыцця нашага народа ў гады нямецка-фашысцкай акупацыі нам яшчэ вяртацца і вяртацца — дзеля таго, каб на іх заставалася ўсё меней і меней памылак і загадак...

**Н.К.**

*Што ні кажыце, толькі ўсё ж ёсць своеасаблівы шарм у занядбаным, але такім мілагучным слове — правінцыя. Адчуваецца ў ім і лёгкі смутак юнака па дзіцячых гадах, якія так нечакана і хутка мінулі, і прасветленая сумота старога. Яно, як бабінае лета, цешыць сваёй раскошнаю адцвітаючай прыгажосцю і трывожыць балючаю непазбежнасцю знікнення. Здаецца, што яно мае свой водар і смак, які нагадвае пах прывялых жоўтых антонавак пасярод сібернай зімы. Яно цешыць слых сваёй працягласцю і нейкай спакойнай утульнасцю, як цешаць зрок здарожанага вандроўніка пыльныя вузкія вулачкі з аднапавярховымі рознакаляровымі хатамі, што хаваюцца ў зяляніне садоў нашых мястэчак і невялікіх гарадкоў. Усе яны ў сваёй сціпласці, у тыповых белацагляных крамках на галоўнай вуліцы, у невялікай плошчы з абавязковым атрыбутам нядаўняе мінуўшчыны — помнікам вялікаму і неўміручаму правадыру, — браты-блізняты,.ад Буга і да Дзвіны. Аднак за ўсёй гэтай тыповасцю, як за брыдкаю маскай бабы-Ягі на балі-маскарадзе, хаваюцца сапраўдныя пекныя твары, якія ўразяць неабыякавага гледача сваёй непаўторнасцю і прыгажосцю.*

**Галіна ТЫЧКА**

# ПАДАРОЖЖА Ў ПРАВІНЦЫЮ

Пыхлівыя турысты ў шыкоўных чырвона-белых «Ікарусах» грэбліва абмінаюць правінцыю, несучы свае душы і целы на захад альбо ўсход, каб ахвяраваць іх ненажэрнаму малоху цывілізацыі. Яны шукаюць мінулае ўперадзе, не заўважаючы, як яно застаецца ззаду. Яно і праўда: мы ўсе вымушаны спяшацца: нам не стае часу, каб разглядацца па баках. І таму зараз, хоць завочна, я хачу запрасіць вас, шаноўныя чытачы, на экскурсію туды, дзе адзін раз у суткі спыняецца на 10 хвілін сталічны цягнік мясцовага прызначэння і некалькі разоў на тыдзень (у сувязі з інфляцыяй) прыходзіць паўпусты чырванабокі аўтобус. Карацей, вандруем з вамі на поўнач, на бераг маляўнічага Мёрскага возера, дзе ўтульна раскінуўся невялікі, але прывабны гарадок з загадкаваю назваю — Мёры.

Ёсць меркаванні, што гэта назва балцкага паходжання, бо спакон веку на гэтай зямлі суседнічалі славянскія і балцкія плямёны. Зараз колішні балцкі субстрат захаваўся адно ў геаграфічных назвах — азёры Набіста, Абстэрна, прозвішчах — Гірджы, Барэйкі, Рэўты, Гернты і, вядома, імёнах. Адольфы і Адальфіны, Норберты і Сабіны, Альберты і Біруты — гучаць натуральна і звыкла для вуха мясцовага чалавека. Але не для прыезджага! Прыезджым, асабліва з усходу, многае будзе выглядаць тут дзіўным і незразумелым, што яны растлумачаць на свой розум і лад. Так у 1939 годзе сталася і са старажытнай назвай гэтага заходнебеларускага мястэчка. Назва яго была перакладзена з польскае мовы на расейскую, як **Миоры**, і адпаведна на беларускую — Міёры, бо, як вядома, у польскай мове гук «ё» перадаецца на пісьме дзвюма літарамі «іо». І такім чынам неадукаванасць прысланага з метраполіі чыноўніка была ўвекавечана на многія дзесяцігоддзі, ажно па сённяшні дзень. (Такі ж лёс, дарэчы, спасціг і гарадок Лёзна, які ператварыўся ў Лиозно).

Цікава адзначыць, што назвы возера — Мёрскае, і рэчкі, што выцякае з яго, — Мёрыца, засталіся нязменнымі. Праўда, у друку раз-пораз з'яўляліся спробы называць і возера Міёрскім. І вось у 80-ыя гады выйшла пастанова Саўміна, дзе гаварылася аб удакладненні і геаграфічных назваў, і сярод іншых была ўдакладнена назва возера Мёрскага, якое рэкамендавана было пісаць з гэтага часу толькі праз «ё». А што да назвы гарадка, то ніводзін мясцовы чалавек ад Глыбокага да Браслава нават у нецвярозым стане ніколі не вымавіць Міёры, а толькі Мёры. Здавалася б, здаровы сэнс падказвае без лішніх мітрэнгаў вярнуць нармальную назву гарадку. Але не думайце, што тут усё так проста! Трэба, каб стварылася ініцыятыўная група, сабрала подпісы, падала заяву ў гарсавет, а дэпутаты ўключылі пытанне ў павестку пасяджэння рады. А дэпутаты, зрэшты, могуць вырашыць, як ім захочацца, як у Вярхоўным Савеце, напрыклад, з рэферэндумам. Ходзяць чуткі, што ўжо звярталіся людзі да ўлад з такою просьбай, ды безвынікова, бо, як сказаў мне па сакрэце адзін з мясцовых дзеячаў, Міёры тады стануць Мёрамі, калі Мінск ператворыцца ў Менск. Бачыце, як усё ж важна сталіцы падаць правінцыі прыклад!

На сёння Мёры — адносна невялікі гарадок з насельніцтвам каля 9 тысяч чалавек (а ўсяго ў раёне жыве недзе каля 34 тысячаў). З канца 60-ых гадоў колькасць насельніцтва скарацілася прыкладна на тысяч дзесяць. Зараз спаду не назіраецца, ёсць нават невялікі прырост за кошт перасяленцаў з чарнобыльскай зоны і мігрантаў з суседняй Латвіі. Хаця мігрантамі можна назваць іх толькі ўмоўна: у большасці гэта нашы кроўныя браткі-беларусы, якія кінуліся з бацькоўскіх сядзіб па той бок Дзвіны ў пошуках лепшай долі, а зараз вяртаюцца на родныя гоні.

Насельніцтва тут этнічна неаднароднае. Людзі, што насяляюць гэты край, падзяляюць сябе на беларусаў, рускіх, палякаў і маскалёў. Палякі — гэта католікі, якіх з польскай нацыяй звязвае малітва, вымаўленая ў касцёле на беларускай «пальшчызне», ды колькі дзесяткаў польскіх слоў, што засталіся ў памяці яшчэ з даваенных часоў, калі хадзілі яны з кужэльнымі торбачкамі да пачатковай польскай школкі. Прыходзіць, да прыкладу, такі дзядзька да аўталаўкі, і калі ў добрым гуморы, то не супраць «пафарсіць» сваёй польскай мовай:

— Тшы булкі хлеба, — кажа ён лавачніку.

— Бяры, дзядзька, й батон, — намаўляе той.

— Нема форсы, — ганарыста адказвае дзед і, забраўшы свой хлеб, клыпае дахаты.

Праваслаўных тут называюць беларусамі, часам рускімі, бо, як вядома, афіцыйнаю мовай царквы з'яўляецца руская. Дарэчы, зусім нядаўна на ўскраіне Мёраў заблішчэла серабрыстымі цыбулінамі купалоў новая царква — у процівагу касцёлу, які знаходзіцца на другім канцы горада. Паколькі царква ўзнікла зусім нядаўна, яна не мае ў сваёй біяграфіі ані цікавых гісторый, ані паданняў, ані легенд. Выключэннем з'яўляецца хіба показка пра святара гэтай царквы, які выкапаў студню і павесіў на яе замок, бо панадзіліся ў яе хадзіць суседзі, кожны са сваім не заўсёды чыстым вядром. Вернікі ж дасюль спрачаюцца, меў тут бацюшка рацыю ці не, і што было б лепш — замкнуць студню ці ахвяраваць адно вядро, прымацаваўшы яго да студні дзеля грамадскае агульнае карысці.

«Рускія» ды «палякі» адрозніваюцца паміж сабой толькі тым, што ў нядзелю адны ідуць на адзін канец Мёраў — да царквы, а другія — у процілеглы, да касцёла. А вось «маскалі» сапраўды з'яўляюцца тут іншароднай этнічнай групай. «Маскалямі» тут называюць рускіх стараверау, якія пасля вядомай усім царкоўнай рэформы пакінулі межы Масковіі і схаваліся ад пераследу на тэрыторыі суседняй дзяржавы — нашага Вялікага княства Літоўскага. Жывуць тут яны даволі кампактна, і здолелі захаваць не толькі сваю рэлігію, але і мову, звычаі, культуру. Гавораць яны прыгожаю рускаю моваю, час ад часу аздабляючы яе каларытнымі беларусізмамі. Любімаю стравою маскалёў з'яўляецца «драчёна» (паводле назвы мне чамусьці ўяўлялася, што гэта каша), на справе ж гэта смачны пухнаты блін, які пячэцца з мукі, яек, крухмалу. Але не менш папулярныя ў іх і «бульбянікі» — піражкі з варанай тоўчанай бульбы, надзяваныя капустай ці тварагом. Калі старавер захоча каго-небудзь аблаяць, то скажа пра свайго непрыяцеля так: «Ах еретик ты окаянный!». Сярод мясцовых беларусаў існуе павер'е, што стараверы вельмі хораша ведаюць лес і адчуваюць сябе ў ім, як дома. Але, відаць, гэта перабольшанне, як перабольшанне і тое, што сярод іх распаўсюджана знахарства. Праўда, ёсць жанчыны-староверкі, якія «ўмеюць» адшукаць зніклага чалавека, загаварыць ваду, і тая вада, загавораная перад старадаўнімі стараверскімі абразамі, дапамагае ўсім — і стараверам, і праваслаўным, і каталікам.

Паводле меркавання некаторых даследчыкаў, менавіта тут, на Мёршчыне, у невялікай на сёння вёсачцы Ніўнікі, дзе зараз, бадай, толькі малельны дом ды могілкі, знаходзіўся калісьці рэлігійны цэнтр усіх стараверау Беларусі.

Беларусы — і праваслаўныя, і католікі — жывуць з маскалямі дружна, супольна ладзяць і хрэсьбіны і хаўтуры. Праўда, відаць, дзякуючы інстынкту самазахавання, стараверы імкнуцца браць шлюбы пераважна са «сваімі». Цікава, што менавіта з гэтага этнічна чужога беларусам асяроддзя якраз і найменш чуваць якіх-кольвек нараканняў на беларускую мову.

Увогуле, «прышлым» у асяроддзі беларусаў жывецца нядрэнна. Яшчэ сярэднявечныя гісторыкі як адну з найбольш характэрных рыс нашага далёкага продка — вялікага князя Уладзіслава-Ягайлы — адзначалі ягоную «марудлівасць» і «пэўную ўсходнюю апатычнасць». Відаць, дзякуючы гэтай апатычнасці і здолела ўвекавечыцца ў назвах мёрскіх вуліц хваравітая цяга колішняга партыйнага кіраўніцтва да «інтэрнацыяналізму» і «вечна жывых камуністычных ідэй». І хоць мясцовыя актывісты і выносілі прапановы аб зменах, «шырокай падтрымкі працоўных», як кажуць «вечна ўчарашнія», гэта не знайшло. Яно і не дзіўна. Камуністы — людзі здысцыплінаваныя, і хоць дзейнасць КПБ была прыпынена, але і на перыферыі яны не надта імкнуліся змяняць што-небудзь у былым такім утульным для іх ладзе жыцця. У апошні час дзейнасць чыкінскае партыі ды перамога Бразаўскаса ў Літве іх так натхнілі, што яны тэрмінова правялі нараду, стварылі райком партыі, выбралі першага сакратара. (Дзе тут ім займацца нейкімі назвамі!) Праўда, ходзяць чуткі, што туды ўвайшлі толькі некаторыя былыя функцыянеры мясцовага значэння ды пара-тройка адстаўнікоў-пенсіянераў.

Сталічны турыст, блукаючы па вуліцах — Камуністычнай, Інтэрнацыянальнай, Камсамольскай, Леніна, Кірава і г.д., можа падумаць, што, апрача партыйных дзеячаў «Вялікага Кастрычніка», тут аніколі не ступала нага прыстойнага чалавека. Але вельмі і вельмі памыліцца. Акурат тут, на гэтай зямлі, нарадзіўся выдатнейшы дзеяч нашага Адраджэння Вацлаў Юстынавіч Ластоўскі, па мёрскіх вёсках і хутарах не раз праходзілі шляхі вечнага вандроўніка, геніяльнага мастака і самабытнага філосафа Язэпа Драздовіча. Звычайна вымушалі іх пакідаць радзіму няспрыяльныя палітычныя абставіны. Так, з найбольш старых дысідэнтаў варта ўспомніць славутага Генрыка Дмахоўскага, паўстанца 1863 года, які яшчэ да паўстання эміграваў у ЗША і стаў нацыянальным героем гэтай краіны. З апошніх, хто прадоўжыў гэтую традыцыю, — Васіль Крупскі, вядомы многім супрацоўнік беларускай хвалі радыёстанцыі «Свабода». Ягоны выезд за мяжу адбыўся адносна нядаўна — у 70-ыя гады, роскві́т застойных часоў.

Гэтыя звесткі і шмат якія іншыя, магчыма, будучыя падарожнікі знойдуць у мясцовым краязнаўчым музеі, будынак якога на былой цэнтральнай плошчы, побач з помнікам Невядомаму салдату, амаль ужо закончаны. А пакуль будучая экспазіцыя месціцца ў мясцовай школе, дзе працуе настаўнікам гісторыі В.Ермалёнак, дзякуючы ахвярнай працы якога і быў створаны музей.

Праміне колькі гадоў і, відаць, з'явяцца ў Мёрах вуліцы Ластоўскага, Драздовіча, Андрэя Цікоты, які, пэўна ж, не раз хадзіў тут, бо доўгі час працаваў у славутым друйскім марыянскім кляштары. Памяць пра айца Цікоту дасюль жыве сярод людзей. Адзін стары неяк казаў: «Калі б дачуўся, што будзе казаць казанне айцец Цікота, я б і сёння пайшоў пяшком у Друю, каб паслухаць яго». Старому недзе гадоў пад восемдзесят, а да той Друі добрых дваццаць вёрст. След Цікоты, як і Ластоўскага, згінуў у сталінскіх лагерах, але справа ягонага жыцця не прапала. Менавіта тут, на Мёршчыне, касцёл адным з першых павярнуўся да беларускай мовы. Сюды ў 80-ыя гады ў занядбаны Ідолтаўскі касцёл быў прызначаны на службу мала каму вядомы святар з Літвы — Уладас Пятрайціс. Сёння айца Пятрайціса, святара прыгожага чырвонага Мёрскага касцёла, ведаюць многія. Ужо не першы год праводзіць ён тут імшу на роднай мове, тут ладзяцца вандроўкі па родным краі, пад штандарам «Пагоні», тут выдаецца адна з цікавейшых рэлігійных газет сучаснасці «Голас душы», адным з рэдактараў якой разам з І.Жарнасек з'яўляецца і айцец Пятрайціс. Традыцыі друйскіх айцоў-марыянаў, шчырых прыхільнікаў асветы і роднай мовы, працягвае і іх колішні выхаванец, цяперашні святар Ідолтаўскага касцёла айцец Антон Лось.

На Мёршчыне засталося вельмі шмат слядоў былое цывілізаванасці гэтых мясцін. Руіны панскіх сядзібаў са знішчанымі алеямі шыкоўных паркаў, ад якіх пазаставаліся адзіночныя нязвыклыя для гэтых мясцін дрэвы, фамільныя склепы на вясковых могілках, рэшткі былой папяровай фабрыкі... І, вядома, легенды, легенды... Ходзяць, да прыкладу, чуткі, што менавіта адсюль паходзіць род славутага польскага пісьменніка, лаўрэата Нобелеўскай прэміі Чэслава Мілаша. Нагадвае зараз пра гэта назва вёскі Мілашова, якая калісьці належала гэтаму роду, і фамільны склеп, што месціўся ў невялікім касцёле на маляўнічым востраве Мілашоўскага возера. Якія толькі паданні ні расказвалі пра гэты стары закінуты касцёл! Аматары лёгкай нажывы і зачараваных кладаў неаднойчы ўначы заплывалі на востраў і абшуквалі касцельныя сутарэнні. Невядома, ці знаходзілі яны клады, але святыню і косці памерлых па-варварску трывожылі і нішчылі не раз. Зараз, дарэчы, гэты касцёл адбудоўваецца.

Не менш цікавая і гісторыя Мёрскага касцёла, які быў збудаваны незадоўга да II сусветнай вайны, у вельмі кароткі тэрмін. Будаўнічымі працамі кіраваў ксёндз Бародзіч, якога заўжды памінаюць цяпер у малітвах парафіяне. Але ксёндз Бародзіч быў, відаць, народжаны не для малітваў, а для прадпрымальніцтва і камерцыі. Да гэтага часу на невялікім хутары Аблятова, былой сядзібе паноў Абрампальскіх, стаяць руіны вялізнага двухпавярховага млына з рэшткамі складанага млынарскага рыштунку. Млын гэты разваліўся не ад дажджу і ветру (даўней умелі будаваць трывала, на доўгія дзесяцігоддзі) — сюды неаднойчы наведваліся мясцовыя «прадпрымальнікі» з толам ды трактарам. Расказваюць, што Бародзіч прымушаў сялян збіраць грыбы, потым сушыў іх і малоў, а парашок за вялікія грошы прадаваў у Італію. Туды, дарэчы, і ўцёк ён, калі пачалася вайна, і ў 1939 годзе на гэтых абшарах першымі за немцаў з'явіліся бальшавікі ў шэрых ватоўках, як расказваюць мясцовыя бабкі, — брудныя, няголеныя і злосныя.

Так што за сценамі касцёла кс.Бародзіча ўспамінаюць нядобрым словам: і скупы ён быў, і жорсткі, зневажаў людзей, і не грэбаваў подзвігамі Казановы. Мясцовыя старажылы перакананыя, што менавіта ён напісаў данос на друйскіх айцоў-марыянаў, пасля якога пілсудчыкі і разагналі друйскі кляштар. І што б там ні казалі ворагі беларушчыны пра абыякавасць простых людзей да сваіх адраджэнцаў, гісторыя сведчыць пра іншае. Былі яны здольныя заўважыць і супрацьстаянне кс.Бародзіча і друйскіх айцоў-марыянаў, і правільна вызначыць свае адносіны да яго. З даўніх, яшчэ даваенных часоў жыве на Мёршчыне такая прыпеўка:

Ехаў ксёндз Бародзіч
На конях пад потам,
А на ім праехаў
Ксёндз Андрэй Цікота.

Аўтарам яе, відаць, быў Язэп Малецкі, выхаванец друйскіх айцоў-марыянаў. Медык паводле адукацыі, ён, як і кожны свядомы беларус свайго часу, не цураўся палітыкі і літаратуры. З ягонай палітычнай дзейнасці вядома, што быў ён удзельнікам II Усебеларускага кангрэсу і даволі актыўна

*(Працяг на стар. 12)*

***Вядома, для такога выпадку рэцэнзіі замала, таму што з'ява гэта неардынарная ў нашым культурным жыцці і даўно чакаемая. Маю на ўвазе зборнік вершаў і паэм «Туга па Радзіме» — фактычна першую выдадзеную ў Мінску анталогію беларускай паэзіі на эміграцыі. Прызнаюся, што я ўжо з паўгода трымаю яе на сваім стале, спрабуючы — хаця б для сябе — асэнсаваць своеасаблівасць і значнасць самога феномену паэтычнай творчасці нашых выгнаннікаў у яе анталагічнай шматграннасці і аб'ёме, але гэта не так проста. З чаго яна вырасла? Што сабой ўяўляе? У чым яе каштоўнасць? Дзівіць глыбіня, шчырасць, раскаванасць — тое, чым і цікавая сапраўдная паэзія, сапраўдная мастацкая творчасць, у якой адлюстраваліся не толькі час і абставіны, але і асаблівасці нацыянальнага менталітэту, бо на эміграцыі характар беларуса праявіўся ў нечым больш выразна, чым дома (гэта праблема яшчэ чакае свайго ўважлівага даследчыка).***

**Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ**

# СЛОВА, АПЛАЧАНАЕ ЛЁСАМ

Асабіста я ўпершыню большменш падрабязную вестку пра існаванне беларускай эміграцыйнай літаратуры пачуў, здаецца, ці не ў 1969 г. ад Я.Ліманоўскага, які — сам эмігрант — прыехаў быў як турыст у Беларусь са Злучаных Штатаў. Ён называў такія імёны, як Н.Арсеннева, Ю.Віцьбіч, Р.Крушына (Р.Казак), А.Салавей, М.Сяднёў, Я.Золак і інш., але паглыбіць знаёмства — пачытаць што-небудзь з іх твораў — не было магчымасці. Потым асобныя кнігі, зборнікі, газеты пачалі рознымі шляхамі даходзіць і да нас...

Асноватворная і вельмі каштоўная, на мой погляд, асаблівасць гэтай паэзіі ў тым, што яна абапіраецца на хрысціянскія каштоўнасці і цэласнае спасціжэнне свету, беручы яго ва ўсёй уласцівай яму паўнаце чалавечых адносін і з'яў. Тут няма нічога падзабароннага: роўнымі ў сваіх эстэтычных правах і праявах аказваюцца «вячорная містэрыя» змены дня і ночы і, з другога боку, «зялёны малачай» паміж халодных муроў разбітага дома (Н.Арсеннева); «няўпэўненая постаць інваліда» на гарадской вуліцы і, у другім выпадку, «бліскане сонца агнявога» (М.Сяднёў); «плач жабрачай леры» і «нашчадкаў сцягі ў далях пурпуровых» (А.Салавей).

Б.Сачанка меў рацыю назваць зборнік «Туга па Радзіме» (хоць гэта таму-сяму, і не без падстаў, здаецца вузкаватым). Некалі Адам Міцкевіч сказаў: «Паэзія — гэта айчына!» Так маглі б сказаць і многія беларускія паэты-эмігранты, паўтарыўшы пры гэтым словы Н.Арсенневай «Я не палітык і ніколі ім не была...», бо любоў да Бацькаўшчыны не палітыка. За любоў да Бацькаўшчыны, здаецца, каралі толькі бальшавікі. І я не магу не верыць вандроўніку па прымусу А.Змагару-Яцэвічу — слуцкаму паўстанцу, які ў лаканічным вершы з чатырох радкоў прызнаецца:

**Куды бы цябе лёс не закінуў,**
**Якім бы ні джаліў асцём,**
**Сваю дарагую Краіну**
**Любіць мусіш больш за жыццё.**

Вядома, тут знойдзем не толькі настальгічныя матывы. Зборнік «Туга па Радзіме» шырока раскрывае духоўны свет беларуса-эмігранта, выпакутаваную ім сістэму жыццёвых каштоўнасцей, маральны вопыт.

Кранаюць простыя па складу радкі А.Смаленца, звернутыя да жонкі:

**Вайной разбурана любоў...**
**Вайною знішчана каханне...**
**Ці ж дачакаю цябе зноў**
**Хоць на апошняе спатканне?**

**Мо, родная, там без мяне**
**Ў чужым краі закрыеш вочы?**
**Ці ж чуеш ты адтуль, ці не,**
**Як сэрца стыне, ные ў ночы?..**
*(«Жонцы»)*

Так не напішаш, не паспытаўшы ўсяго гэтага. За радком чалавечая трагедыя, плач душы...

У паэзіі нашых эмігрантаў можна знайсці самы шырокі спектр думак і пачуццяў — і споведзь, і скаргу, і крыўду, і замілаванне, і задзірыстасць, і абвінавачванне, і пратэст...

Надзвычай асабіста, з прыхаваным нязбыўным болем гучыць зварот М.Сяднёва да сястры:

**Сястра мая, даўно цябе**
**не бачыў —**
**ад самага крывавага жніўя.**
**Балюча мне за ўсе мае няўдачы,**
**за усе мае грахі, што аплаціў не я.**
*(«Сястры»)*

М.Сяднёў умее пісаць так (і ў гэтым праяўляецца высакароднасць яго натуры), што нагадвае пра свой боль толькі сёмай часткай айсберга, — астатняе схавана ў глыбіні душы...

Паэзія, як ні кажыце, гэта лёс. Таго, на каго выпаў яе прамянёвы выбар, — паэта — «сына міра», па вызначэнню Янкі Купалы, — яна ўжо не адпусціць праз усё жыццё, дзе б ён ні знаходзіўся і якія б нягоды і цяжкасці ні дасталіся на яго долю. Пераканальны доказ — зборнік «Туга па Радзіме», які ўключае творы пятнаццаці паэтаў, розных па сваім жыццёвым вопыце, светаўспрыманні, індывідуальна-мастакоўскіх асаблівасцях, і дазваляе, хаця б прыблізна (першая спроба!), уявіць мастацка-эстэтычныя параметры і духоўныя маштабы той дагэтуль амаль невядомай нам з'явы, якая мае сваю назву: беларуская паэзія на эміграцыі, ацаніць яе ўнутраную цэласнасць і шматстайнасць.

Я шчодра цытую яе прадстаўнікоў, каб чытач адчуў водар і смак гэтай паэзіі.

Па-рознаму складваўся іх лёс. Няўтульна адчуў сябе на чужыне Р.Крушына — сын і паэт беларускай вёскі, які пачаў друкавацца яшчэ ў канцы 20-х, у БССР. У эміграцыі яго талент дасягнуў сталасці, хоць умовы не спрыялі.

**Халодным жвірам**
**Нікне думак жменя.**
**Пясок і цэгла.**
**Шум і мітусня.**
**Жыццё камечыцца**
**Паміж таго камення,**
**Фабрычным дымам**
**Копціцца штодня.**
**На голым урбанізме**
**Лірыка не можа**
**Прыгожа,**
**Пышна**
**Краскаю цвісці...**

На гэты конт можна было б і паспрачацца, але нельга спрачацца з характарам паэта: Р.Крушына пісаў проста, нават наіўна (зрэшты, паэзія часам гэта і любіць), але праўдзіва і паэтычна.

Добрую ўсмешку выклікае верш «Хатні сыр», у якім аўтар хоча, хаця б у думках, аднавіць для сябе той свет, які застаўся на Радзіме.

**Край малочны. Дабрыня!**
**Еў сыры я ў Амстэрдаме.**
**Хатні сыр ім не раўня,**
**А яго хацеў бы я...**
**Мы даўней рабілі самі.**

Творчасць Р.Крушыны ўвабрала ў сябе вобразы роднага краю — зіму і прадвесне, смак слуцкай бэры і пах язміну, пацалунак першага кахання і блакітнае неба бацькаўшчыны...

Вобраз роднай вёскі, па якой пракаціўся вогненны вал вайны, паўстае ў вершы У.Дудзіцкага «Я не ведаю, дзе ты...»

**Вецер прысак гумна раздзімае**
**і попел цярушыць**
**па-над сценем маім**
**ля апошняга ў вёсцы зруба...**
**Прад вачыма**
**на месіве глеістым**
**вуліцаў грузкіх, —**
**мерцвякі...**
**Пазіраюць у неба вачэй арбіты...**

Эміграцыя пачалася для У.Дудзіцкага, які для многіх іншых, у 1944 г. Яны павінны былі нанава знайсці сябе ў свеце, навучыцца жыць у асяроддзі іншых народаў, не ахвяруючы ўласнай чалавечай існасцю. Гэта, вядома, не лёгка. Кранае прасякнуты глыбокай настальгіяй верш У.Дудзіцкага «Чорная карта», які мае прысвячэнне «Самому сабе». Пра што ён? Пра вяртанне дадому, у Беларусь.

**Як той колас у полі адзін...**
**Падстаўляючы сонцу грудзі,**
**гавару сам сабе я: ідзі,**
**куды сэрца вядзе, — не заблудзіш.**

**Пратаптаў жа ці мала ўжо**
**і дарогаў, і розных сцежак...**
**І хоць твар паблажэў і пажоўк,**
**але ж дышам паветрам свежым...**

Гэты верш — пра вяртанне на радзіму — напісаны ў Венесуэле 18 лютага 1955 г., калі, відаць, аўтар асабліва пакутаваў ад настальгіі. У ім гучыць дыялог паэта з самім сабой.

**Не цурайся. У маршы ўзваж**
**таямніцы і маршаў сакрэты...**
**І як кінуць у вочы: «Не наш», —**
**значыць, след твой**
**ля светлай мэты.**

І, кажуць, У.Дудзіцкі паехаў у СССР, нягледзячы на гэтае жорсткае «Не наш». След яго губляецца недзе ў дарозе...

Паэтам-эмігрантам, здаецца, было знаёма ўсё, чым мог надарыць чалавека лёс, і многае з перажытага перайшло ў вершы, праўда, не заўсёды да канца пераўтварыўшыся ў новую — эстэтычную — рэальнасць. Часам можна натрапіць на выдаткі залішняй фактаграфічнасці, бытавізм, банальнасць, што адмоўна адбіваецца на мастацкім асэнсаванні перажытага. Не хапала, вядома, літаратурнага асяроддзя. І ўсё ж такі праўда жыцця, праўда чалавечай споведзі — у паэзіі рэч дарагая і незаменная. Яе знаходзім у лепшых вершах Х.Ільяшэвіча перыяду эміграцыі.

**Ніхто рукі не сцісне, не скажа**
**слова пацехі.**
**Ці згіну дзе ў дарозе —**
**ці змерзну як сабака,**
**завыўшы ў зорнасць неба?**
**...Пуста і холадна.**
**Дождж і вецер.**
**Ці чуеце вы мой голас?**
**Ціха. Ноч. Паўночны шторм.**
*(«Сябрам»)*

Гаворачы пра скрутныя абставіны эміграцыі, паэт паказвае таксама стан той чалавечай адзіноты, якую можна напаткаць не толькі на чужыне...

Рысы спавядальнасці бачны ў У.Клішэвіча. Душэўны стан паэта, уласцівы яму ўнутраны драматызм, адчай праўдзіва перададзены ў вершах, створаных на Калыме і ў іншых месцах заключэння.

**Толькі бура начамі завые,**
**І заплачуць ад болю снягі —**
**Устаюць мерцвякі, як жывыя,**
**Каб парваць на сабе ланцугі.**
*(«Ліст з Сібіры»)*

У.Клішэвіч быў адным з першых, чый голас данёсся сюды, у БССР, праз жалезную заслону. У «Бібліятэцы «Голасу Радзімы» выйшла яго кніжачка «Сняцца сны мне залатыя» (1973). Мяркуючы па яго лірыцы, ён быў вельмі даверлівы, але чуйны да ўціску, прыніжэння чалавечай годнасці. Пра гэта можна меркаваць па радках, напісаных у Германіі, — паметка: «Морунген, 22.IX.1944 г.»: «Ты ў вачох гаспадара — жывёла, \\Не чалавек, а толькі унтэрмэнш». Тэма выгнання, ці, як цяпер гавораць, бежанства, займае вялікае месца ў яго паэтычнай творчасці.

**Ты не пытай аб лёсе**
**І дзе што не збылося,**
**Чытай па твару рысах,**
**Як я душою высах.**

Паэзія, літаратура, мастацтва дапамагалі нашым землякам выстаяць на суровых ветравеях часу, не растварыцца ў масе сучаснага заходняга грамадства. Гэта добра відаць па вершах Я.Золака, М.Кавыля, Я.Юхнаўца, С.Ясеня, А.Бярозкі, А.Салаўя.

Паэзія Янкі Золака большай часткай стылізавана пад фальклор, і гэта акалічнасць нярэдка дапамагае яму выказацца проста і шчыра.

**На руках маіх шмат мазалёў...**
**Хіба ж іх я саромецца мушу?!**
**Гэта знак, што я ў целе нашу**
**беларускую чэсную душу.**

Цікава і, як для анталогіі, досыць поўна прадстаўлены М.Кавыль, які прайшоў надзвычай шмат выпрабаванняў. Ён помніць паэтыку 30-х гадоў: «Сталлю звінець мусіць верш паэта» («Санет»), аднак лепшыя творы М.Кавыля абыходзяцца без «сталі»:

**Бы мурашка, не па росту**
**падымаю цяжар,**
**Згібаюся, нясу, глытаю**
**пот гарачы.**
**Зняможаны, паглядаю ў**
**неба, можа, скажа:**
**«Апошняя ступень, адпачні,**
**бядача!..»**

**У небе маўкліня. Цяжка.**
**Паўзі, чалавек-мурашка!**

Любоўю да чалавека сагрэта паэзія А.Салаўя — паэта, які таксама шмат перажыў і здольны быў на спачуванне да ўсіх пакрыўджаных і абяздоленых. І не толькі на спачуванне, але і на асуджэнне зла, пратэст, што гучыць, напрыклад, у вершы «Нішчым»:

**Зусім нішчым. Сухі пясок пустыні**
**ваш ідэал. Мякіна — мозаг, кроў.**
**Пабачыў вас — на коўзкай**
**лёднай строні**
**бязродны гурт скапычаных кароў.**
**Апошні раз у высь нябёснай сіні**
**ваш правадыр — ваш бык**
**на скон зароў.**
**На баўтунох вы селі за квактуху,**
**курчат няма — вось**
**ваша сіла руху.**

Калі б, вы думалі, было гэта напісана? У 1947 годзе.

Пятнаццаць абраннікаў паэзіі, якія сышліся ў гэтай прадстаўнічай кнізе (іх, вядома, значна больш), вельмі розныя як людзі і як мастакі. Найбольш буйныя, на мой погляд, Наталля Арсеннева і Масей Сяднёў. Не толькі, дадам, буйныя, але ў многім і супрацьлеглыя. Зрэшты, пра гэта — па часе.

Тут асабліва выразна відаць, што паняцце «Туга па Радзіме» ўсё ж такі вузкае для вызначэння абсягаў іх творчасці. Прыгадваецца хутчэй выслоўе нямецкага рамантыка Навaліса: «Паэзія ёсць адлюстраванне душы — унутранага свету ў яго цэласнасці». Яно дакладна характарызуе творчыя прынцыпы і Н.Арсенневай, і М.Сяднёва.

Жыццёвы і творчы шлях Н.Арсенневай у самых агульных абрысах вядомы. Пачынала яна па-руску. У Віленскім архіве да гэтага часу перахоўваюцца два яе сшыткі вершаў на рускай мове (звесткі пра гэты факт ласкава паведаміў мне І.К.Цішчанка). Аднак, відаць, непадманная прырода таленту вярнула яе (можа, не без дапамогі М.Гарэцкага — у той час настаўніка Віленскай беларускай гімназіі) да роднага слова. Ужо адно тое, што яна пісала па-беларуску, з'яўлялася выклікам польскім акупацыйным уладам, якім, зрэшты, яна нічым не пагражала. Яе паэзія была звернута не так да жыцця, як да яго сэнсу, да таго, што прыхавана ў яго патаемных глыбінях. У паэтычнай творчасці аўтарка бачыла магчымасць эстэтычнага самавыяўлення, якое, не ўтоім, часам выглядала даволі вузкаватым, камерным. Аб'ект пошукаў паэтэсы — прыгажосць, якую яна, аднак, знаходзіць не столькі ў свеце чалавечай чыннасці, колькі ў эстэтычным багацці навакольнай прыроды. Прырода ў яе супрацьстаіць свету грамадскай неўладкаванасці і супярэчнасцей.

***Туга па Радзіме. Паэзія беларускай эміграцыі. Мн., «Мастацкая літаратура», 1992.***



# СЛУЖЫМ АЙЧЫНЕ

ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ БЕЛАРУСКАГА ЗГУРТАВАННЯ ВАЙСКОЎЦАЎ

## УРОКІ, ЯКІЯ МЫ ДОБРА ВЫВУЧЫЛІ

**Прайшло ўжо 75 год з першай у гэтым стагоддзі спробы беларускіх патрыётаў адрадзіць дзяржаўнасць сваёй Айчыны. Гэтая спроба, хоць яна і пацярпела паразу, дала нам бясцэнны вопыт — вопыт барацьбы за свабоду. Кароткая гісторыя БНР сведчыць, што для выжывання дзяржавы неабходны дзве ўмовы. Першая, найбольш важная — гэта наяўнасць моцнай нацыянальнай ідэі, яднаючай народ вакол сваёй дзяржавы. Стабільнасць дзяржавы без такой ідэі немагчымая. Другая ўмова захавання незалежнасці — наяўнасць ва новаўтворанай дзяржаве збройнай сілы, здольнай рашуча выступіць на абарону яе суверэнітэту супраць любой пагрозы звонку. Наша незалежнасць застаецца і застанецца фармальнай, калі мы не здолеем абудзіць патрыятычныя пачуцці ў значнай частцы нашага народа, калі мы не здолеем стварыць прасякнутае патрыятычным духам Беларускае войска. Вырашэнне гэтых задач павінна быць прыярытэтнай справай для дзяржавы, для грамадскасці. Бо няма сэнсу змагацца за розныя канцэпцыі развіцця грамадства, эканомікі, культуры, калі само існаванне нашай краіны знаходзіцца пад пагрозай, прынамсі, пад пагрозай уцягнення беларусаў ва ўзброеныя канфлікты ў суседніх дзяржавах.**

**Тыя, што з нецярпеннем чакаюць нейкіх «падзей» у Маскве, што спадзяюцца пагрэць рукі над агнём запаленага там пажару, не разумеюць, што калі загарыцца і наша хата, то гарэць давядзецца ўсім... Таму грамадства не можа не звяртаць увагу на тое, што робіцца ў тых войсках, якія зараз знаходзяцца пад юрысдыкцыяй нашай дзяржавы, на тэндэнцыі развіцця сітуацыі ва Узброеных Сілах РБ. Таму дзяржава не павінна заставацца ўбаку ад той працы па гісторыка-патрыятычным выхаванні народа, якую пакуль што мэтанакіравана вядуць толькі некаторыя грамадскія арганізацыі і асобныя патрыёты-гісторыкі.**

**Бог злітаваўся над нашай нацыяй і даў ёй яшчэ адзін шанц, мабыць, ужо апошні шанц на выжыванне. Скарыстаемся мы гэтым шанцам ці не, залежыць ад працы, інтэлекту, рашучасці і здольнасці да самаахвярнасці той, пакуль што адносна невялікай колькасці людзей, якую можна назваць свядомай часткай нацыі. Агонь нашай свабоды, распалены 75 год назад на папялішчах былой славы продкаў, ужо гарыць у сэрцах тысячаў патрыётаў Беларусі. І гэта — асноўная гарантыя незваротнасці нашага шляху да незалежнай Айчыны.**

**М. СТАТКЕВІЧ,**
**старшыня Каардынацыйнай рады БЗВ.**

## Ці павінна быць у войску апазіцыя?

Менавіта так ставіць пытанне вайсковае кіраўніцтва перад патрыятычна настроенымі афіцэрамі, калі яны падымаюць праблемы надзейнасці і баяздольнасці Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь, гавораць пра злоўжыванні ў войску, парушэнні ў ім заканадаўства.

Войска, якое з'яўляецца неад'емнай часткай беларускага народа, утрымліваецца гэтым народам і абавязана яго бараніць, невыпадкова знаходзіцца ў цэнтры ўвагі грамадскасці нашай.

Сёння, калі Беларусі, яе народу лёс дараваў магчымасць адбудаваць сваю незалежную дзяржаву, каб нашы мары аб нацыянальным Адраджэнні, нашы імкненні жыць сваім розумам, а не па ўказцы з «цэнтра», здзейсніліся, неабходна тэрмінова ўзмацняць наша войска.

А што ж у ім робіцца, якія сацыяльныя і маральна-псіхалагічныя працэсы там адбываюцца? Усімі вайскоўцамі прынята прысяга, ёсць законы, адпаведныя пастановы ўрада і загады міністра абароны, генералы і афіцэры атрымліваюць службовыя аклады. Ды чамусьці сітуацыя ў войску і вакол яго пастаянна хвалюе грамадства...

Амаль што з першых дзён існавання Узброеных Сіл Вярхоўны Савет і праваахоўчыя структуры рэспублікі заклапочаны станам злачынства і злоўжыванняў у войску. Колькасць і тэмпы росту правапарушэнняў за 1992 год сведчаць, што сітуацыя ўскладняецца. Але тое, што выяўлена, прайшло праз статыстыку, рашэнні судоў і трыбуналаў — безумоўна, толькі частка айсберга.

Жыццё паказвае, што калі служыць сумленны камандзір (начальнік), калі ён разумее сваю адказнасць за справу абароны беларускага народа, то ён і, як правіла, яго падначаленыя добрасумленна выконваюць патрабаванні законаў і загадаў міністра абароны. Між тым пакуль што яшчэ шмат афіцэраў, якія на словах з усім згодныя, законы ўспрынялі, прысягу прынялі, пенсію зарабляюць, але не імкнуцца мацаваць дзяржаўнасць нашай краіны, становяцца на шлях злоўжыванняў і злачынстваў.

Патрыятычна настроеныя афіцэры, якіх, на жаль, сярод камандзіраў і начальнікаў на ключавых пасадах вельмі мала (не таму, што дастойных сярод беларусаў няма, а таму, што такая была і ёсць кадравая палітыка), вельмі занепакоены тым, як выконваюцца ў вайсковым асяроддзі законы, адпаведныя рашэнні ўрада.

Прайшло паўтара года, як уведзена дзяржаўная сімволіка ў Рэспубліцы Беларусь, мы адмовіліся ад монаідэалогіі. Але і да сённяшняга часу ў ваенных установах ёсць элементы дзяржаўнай сімволікі СССР, стаяць шматлікія помнікі Леніну... У той жа час практычна не вырашана пытанне аб увядзенні беларускай вайсковай сімволікі.

Ва Узброеных Сілах рэспублікі, як ні дзіўна, добра сябе адчуваюць, праходзяць службу, атрымліваюць вышэйшыя пасады і званні генералы і афіцэры, якія з'яўляюцца сябрамі і прыхільнікамі палітычных партый і грамадскіх арганізацый, што выступаюць супраць нейтралітэту і незалежнасці Беларусі, дзяржаўнасці беларускай мовы.

Цікавым у сувязі з гэтым з'яўляецца той факт, што пры правядзенні ў студзені—лютым атэстацыі афіцэрскага складу на пасяджэнні атэстацыйных камісій не былі запрошаны прадстаўнікі улады — народныя дэпутаты. Усё вырашалася пры зачыненых дзвярах па-за ўвагай грамадскасці. Але ж... Калі справа дайшла да пытання, што трэба ў адпаведнасці з дырэктывай міністра абароны адзначыць у тэксце атэстацыі на генерала ці афіцэра, адданы ці не адданы ён беларускаму народу, — дык чамусьці гэта аказалася невырашальнай праблемай.

Негатыўнай старонкай жыццядзейнасці войска з'яўляюцца службовыя злоўжыванні: крадзеж вайсковай маёмасці, выкарыстанне аўтамабільнай і іншай вайсковай тэхнікі ва ўласных мэтах і гэтак далей.

Здзекам над беларускім народам і яго сынамі-вайскоўцамі тэрміновай службы з'яўляецца тое, што нашы маладыя хлопцы, быццам парабкі, працуюць час ад часу на будоўлях катэджаў, дач, гаражоў сваіх начальнікаў.

Жыццё падказвае, што ва Узброеных Сілах дзеля павышэння адказнасці ўсіх структур вайсковага кіраўніцтва за выкананне законаў, пастаноў урада і загадаў міністра абароны мэтазгодна замест існуючых пасад памочнікаў камандзіраў, начальнікаў па прававой працы ўвесці пасады афіцэраў ваеннай пракуратуры, якія б падпарадкоўваліся ваеннаму пракурору гарнізона, Беларускаму ваеннаму пракурору і Генеральнаму пракурору Рэспублікі Беларусь. Менавіта вывад дадзенай катэгорыі афіцэраў з-пад падпарадкавання адпаведным вайсковым начальнікам дасць магчымасць спадзявацца, што адзінаначалле ў войску будзе законнае, што зменшыцца ў ім колькасць злоўжыванняў, больш аператыўнай і аб'ектыўнай будзе рэакцыя праваахоўчых структур на выпадкі правапарушэнняў.

Дык павінна ці не павінна быць апазіцыя ў войску? Безумоўна, у прамым сэнсе слова не павінна быць. Але ж войска, у якім яшчэ шмат нявырашаных праблем, нельга хаваць ад аб'ектыўнай крытыкі. Пакуль ва Узброеных Сілах не будзе панаваць закон, пакуль усе генералы і афіцэры не будуць надзейнымі і з юрыдычнага і з маральнага пункту гледжання, кожны грамадзянін мае права ведаць праўду аб тым, што адбываецца ў войску, ці надзейна забяспечана яго мірнае жыццё і незалежнасць Рэспублікі Беларусь.

Упэўненасць кожнага, што беларускае войска не выступіць супраць свайго народа, а заўжды будзе яго бараніць, павінна быць відавочнай.

Аляксандр КУЛЕШ,
падпалкоўнік,
кандыдат гістарычных навук.

## НЕАБХОДНА, ТРЭБА, ПАВІННА...

**Падзея, за якую на працягу апошняга года змагалася Беларускае згуртаванне вайскоўцаў, супраць якой яшчэ паўгода назад стаялі генералы і палкоўнікі з Міністэрства абароны РБ, дзеля якой выйшлі на плошчу Незалежнасці 8 верасня 1992 года лепшыя прадстаўнікі беларускага афіцэрства, — гэтая падзея адбылася. Беларускае войска і ў першую чаргу яго афіцэрскі корпус прынялі прысягу на вернасць Рэспубліцы Беларусь і яе народу.**

Ззаду засталіся нерашучасць, халуйская сарамлівасць, боязь каго-небудзь, не дай Бог, пакрыўдзіць, расколоць войска, распаліць міжнацыянальную напружанасць. Нічога не здарылася, ніхто не напружыўся, ніхто не раскалоўся. Большасць афіцэраў цвяроза глядзіць на жыццё і здолела зразумець, што зваротнай дарогі няма. Зараз у Беларускім войску больш за 70 працэнтаў афіцэраў — не беларусы. Прысягу не прыняло 7—8 працэнтаў з іх, галоўным чынам тыя, хто звальняецца ці знайшоў добрае месца ў Расіі...

Такім чынам, першы крок зроблены. Што далей?

А далей — непачаты край працы і бясконцае мноства нявырашаных праблем. Той працы, якую неабходна зрабіць, і тых праблем, якія неабходна развязаць, каб Беларускае войска стала беларускім не толькі па назве, але і па форме, і па змесце. Найперш гэта — беларусізацыя, бо сёння войска — самая дэнацыяналізаваная структура Рэспублікі Беларусь.

Працэс беларусізацыі павінен уяўляць сабой комплекс ідэалагічных, арганізацыйных, тэхнічных, навуковых і культурных мерапрыемстваў, якія б забяспечылі планавы і хуткі пераход усіх структур Беларускага войска на нацыянальную аснову.

Усе часткі Беларускага войска, як мага хутчэй павінны атрымаць нацыянальныя баявыя штандары. Уручэнне гэтых штандараў пажадана правесці ў адзін дзень па ўсім войску ва ўрачыстых абставінах. Дзень уручэння пажадана падабраць знакаміты ў беларускай гісторыі. Гэта можа быць дзень Грунвальдскай бітвы, дзень перамогі пад Оршай, дзень перамогі на Сіняй Вадзе і дзень Слуцкага збройнага чыну.

Як мага хутчэй павінна быць уведзена нацыянальная вайсковая сімволіка. Пры гэтым трэба скарыстаць свае багацейшыя геральдычныя традыцыі. Гербаў, сімвалаў, адзнак у нас хопіць на 10 войскаў.

Павінен быць прыкладзены максімум намаганняў дзеля таго, каб выпрацаваныя праграмы гуманітарнай падрыхтоўкі і вывучэння беларускай мовы пачалі па-сапраўднаму дзейнічаць. А дзеля гэтага патрэбна праграма перападрыхтоўкі афіцэрскіх кадраў. Акрамя недахопу выкладчыцкіх кадраў, бракуе метадычных матэрыялаў. Што ж датычыць падручнікаў, якія выдадзены па заказе Міністэрства абароны, дык іх вельмі мала.

Але ж у нас ёсць газета «Во славу Родины». Ці не пара гэтай газеце змяніць назву, перайсці на беларускую мову і друкаваць усё, што трэба па гісторыі і па мове, як гэта робіць «Наша слова»?

Значным крокам на шляху беларусізацыі можа з'явіцца і ўвядзенне сваёй нацыянальнай уніформы. Трэба ўлічваць эмацыянальнае і ідэалагічнае ўздзеянне формы, сімволікі, штандараў, адзнакаў на жаўнера. Асаблівасць, адметнасць, прыгажосць вайсковай атрыбутыкі будзе мець большы выхаваўчы эфект, чым шматгадзінныя гутаркі і лекцыі. Калі, скажам, жаўнер Лідскай брыгады атрымае на рукаў нашыўку з гербам горада Ліды, ён атрымае магутны зарад гонару за прыналежнасць да гэтай часткі. А калі нашы кіраўнікі з часам дойдуць да таго, што пасля звальнення гэты жаўнер застанецца ў запасе прыпісаным да гэтай жа брыгады, то фактычна ён на ўсё жыццё будзе мець у памяці і сваю прыналежнасць да часткі і Беларускага войска наогул, ён на ўсё жыццё застанецца жаўнерам Беларусі, патрыётам Беларусі.

Вырашальную ролю ў беларусізацыі Беларускага войска павінен сыграць інстытут намеснікаў камандзіраў усіх ступеняў па выхаваўчай працы. Сёння з гэтымі людзьмі мы павінны працаваць асабліва цвёрда і рашуча. Яны павінны прайсці самую жорсткую чыстку, на пасадах павінны застацца толькі людзі, да скону адададзеныя ідэі незалежнасці Беларусі.

Безумоўна, што нельга ставіць зараз пытанне так: ведаеш беларускую мову — застаешся, не ведаеш — звальняешся. Не віна, а бяда шмат каго з гэтых людзей, што яны не ведаюць мовы. А калі віна, то віна нашая агульная. І дзеля пазбыцця яе мы павінны пры злучэннях і аб'яднаннях, а, калі ёсць магчымасць, то і пры вялікіх частках стварыць 2—3-месячныя курсы перападрыхтоўкі гэтай катэгорыі афіцэраў. Адрыў іх ад службы не асабліва балюча адаб'ецца на частках і падраздзелах, не запатрабуе амаль ніякіх выдаткаў (пры правільнай арганізацыі), але дасць нам на летні перыяд кантынгент граматных выкладчыкаў.

Ёсць яшчэ адна праблема, якую нельга абмінуць.

Распачаўшы беларусізацыю войска РБ, мы сутыкнуліся з тым, што ў Беларусі практычна няма ніякай вайсковай ці хаця б калявайсковай навукі. Не будзем тут гаварыць пра дактрыны і канцэпцыі. Практычна цалкам адсутнічае беларуская вайсковая тэрміналогія. Ёсць, безумоўна, пэўны набор гістарычных вайсковых тэрмінаў, якія былі выпрацаваны як у старажытнасці, так і ў новы час. Ёсць «Страявы статут БКА» і распрацаваны ў БЗВ «Шыхтовы статут Беларускага войска». Ёсць вялікія напрацоўкі па стварэнні «Расійска-беларускага вайсковага тэрміналагічнага слоўніка». Але ўсё гэта не выдадзена і невядома, калі будзе выдадзена. А вострая неабходнасць у шмат якіх тэрмінах узнікае ўжо зараз. Таму патрэбна тэрміновае стварэнне тэрміналагічнай камісіі па вайсковай тэрміналогіі. Патрэбна тэрміновае размяшчэнне заказаў на выданне тэрміналагічных слоўнікаў. Патрэбна тэрміновае стварэнне аўтарскіх калектываў для іх распрацоўкі.

Сёння Беларускае войска засталося без статутаў у літаральным сэнсе гэтага слова. Статуты савецкія знасіліся, параваліся, а беларускіх няма і ніхто іх друкаваць не збіраецца. І тут мы некага чакаем?

Безумоўна, прыняцце статутаў — справа дзяржаўнай важкасці, але яму павінна папярэднічаць доўгая і карпатлівая праца, вынік якой у шмат чым залежыць ад распрацаванасці

# «НІ ФАРАОНУ, НІ САЛЯМОНУ...»

## *Нататкі агаломшанага тэатрала*

НА ЖАЛЬ, я не люблю кіно. Нават самае найлепшае мяне расчароўвае, бо таямнічай радасці-саўдзелу — калі дыхаеш з акцёрамі адным паветрам, каўтаеш агульны пыл і сочыш нахабную тэатральную моль у самых напружаных сцэнах, — не надараецца перад экранам. Шчыра бяру пад увагу: кіно падуладна сеё і тое, — што тэатру, натуральна, не па зубах, — ну хай бы й займалася сваім кіна «тым»...

Адпачатку матэрыял гэты меўся быць раскута-зубатым, пісаным проста ў зорным маім часе: я б сведчыла й сцвярджала, як напрыканцы эры-эпохі-стагоддзя самае найважнейшае з усіх пралетарскіх мастацтваў у адной асобна ўзятай рэспубліцы Беларусь давяло сваё нікчэмства перад (шэраг вызначэнняў самых розных ухвальных ступеняў) тэатрам. Але шок, той самы шок, які напрыканцы эры-эпохі ўзяліся называць катарсісам, слоўкам з найстаражытнага тэатральнага ўжытку, сцяў мае сківіцы: я паглядзела фільм «Тутэйшыя» «па матывах п'есы Янкі Купалы»... Відавочна, падумалася мне, прырода тэатра і кіно, супрацьлеглая ледзь не да ўзаемаадмаўлення, мусіць быць пакінута для інакшых доследаў. Хоць... «В основе пьесы — слово», — сцвердзіў рэжысёр фільма «Тутэйшыя» Валерый Панамароў на снежаньскай прэм'еры ў кінатэатры «Масква» і парадаваў тым, што «семидесятилетний запрет на пьесу «Тутэйшыя» был, наконец, снят», а ён сам, Панамароў, узяўся за «трагедыйна-смяшлівыя сцэны з быцця беларусоў» (так падае запрашэнне на прагляд) «потому что это не Иванов, Петров, Сидоров, а Купала...» І настойваў на думцы, што фільм «Тутэйшыя» зняты «не з Купалы», а — паводле, паводле, паводле... Між тым, выстаўляючы ў цітры імя Купалы, які цяжар адказу і найскладаны комплекс абавязкаў перад імем мусіў ён браць на сябе? Узнаўленне альбо доследприроды пачуццяў аўтара, паводле класіка Станіслаўскага, мае на ўвазе няпросты шэраг абавязацельстваў, умоў, варункаў, таямнічых дачыненняў... Спектакль Мікалая Пінігіна, перапрашаю за самацытаванне, «запатэнтаваў» сцэнічнае прачытанне п'есы да канца стагоддзя, прынамсі, на маю думку. Баюся, аднак, што параўнанне спектакля з кінастужкай будзе некарэктным, — як некарэктным перакінулася ўвасабленне тэатральных прапаноў Купалы, ягоных рэплік, рэмарак, дыялогаў, маналогаў, характараў і да т.п. на экране: перадусім самым цяжкім і невырашальным аказаўся пераклад са сцэнічнай мовы (а тут параўнанне са спектаклем — прынцыповае, бо фільм яўна падпаў пад ягоны ўплыў) на мову кіно. Сам жа фільм, названы аўтарамі ніяк не «паводле», а менавіта як у Купалы — «Тутэйшыя», уладарна вымагае роздуму пра межы рэжысёрскіх самаацэнак на тэмы «Рэжысёр В.Панамароў і Янка Купала — як і навошта яны спаткаліся?», альбо «Янка і Валерый — ад вялікага да смешнага...»; пра меру сціпласці пастаноўшчыка ды сцэнарыста (Валерыя Панамарова) на тэму «Мова ў «Тутэйшых» — Купалава і неўразумелая» альбо «Мізансцэніраванне: што такое рэжысёрскі почырк і яго ператварэнне ў штамп»; нарэшце, пра вагу ўчыненага: «Купала і панамароўская інтэрпрэтацыя «Тутэйшых»: «мэджду протчым»...

... Наезд камеры на Анікейчыкаў помнік Купалу. Лірнік са спевам. Крыж на снезе — недзе на гары. Тамсама той самы лірнік з дзіцем. Праезд коннікаў. Адвечная лірнікава песня пра «волю і долю». Кірмаш. Эпізадычная батлейка, на якую, паміж іншым, дзівіцца й галоўны герой фільма Мікіта Зносак (Аляксандр Барынаў). Галоўны, бо — так... у спектаклі? Мікіта пераважыў Янку Здольніка; Віктар Манаеў і Аляксандр Лабуш далікатна пераконваюць у рацыі свайго рэжысёра Пінігіна, аднак рашэнне Пінігіна каштоўнае менавіта вынікам — у выніку Мікіта пераважыў Здольніка; у кіно гэтак вырашана адпачатку. А што кінарэжысёр? А ён саджае Ганулю Зносчыху перад печкаю з адвечным вязаннем у руках і прымушае спяваць. Яна, дакладней, актрыса Таццяна Мархель, вяжа і спявае. Камера паволі рухаецца па сценках яўна павільённага збудавання, — пакоя, дзе маюцца жыць матка з сынам. Пры гэтым тэкст Купалы прамаўляецца — сяк-так. То рэплікі адных персанажаў укладаюцца ў вусны другіх, то так званыя рэплікі «ўбок» гучаць з прасталінейным зваротам і сэнсам — «мэджду протчым» у дыялогу альбо, як у сцэне за сталом на Зноскавых імянінах, у застольнай гаворцы пад натуральную бульбу з самагонам. Блытаецца ў Купалавых падтэкставых звадах рэжысёр, мераючы сваёю кінамеркаю тэатральны твор; цьмянее мова («Ну вось, — пачула з вуснаў ганараванага кіназнаўцы пасля прэм'еры, — вось вам і Купала, — плоскія, прымітыўныя тэксты, варта толькі ім было прагучаць з экрана!»), затуманьваецца сэнс, мітусяцца персанажы ў разрэджаным кінапаветры, — ім няма чым дыхаць... Каб сплішчыць тэатральны аб'ём, каб выціснуць паветра, кіно спатрэбіліся інтэр'еры, кілішкі, дываны, канапы, крэслы, балалайкі, закускі, фіранкі, шахматы, гадзіннікі, бясконцыя глобусы, якія цягаліся сюды-туды з няўцямным сэнсам, ледзь не калекцыя гэтых глобусаў у Генрыха Мотавіча Спічыні, чыю ролю выконваў абаяльны Сямён Фарада і сваім выкананнем наводзіў на думку, што ні акцёру, ні рэжысёру не выпала ўчытацца ў п'есу Янкі Купалы «Тутэйшыя»... Бо Купала не пісаў таго, што знялі кінамайстры. Не пісаў таго, што сыгралі ды сказалі з экрана выканаўцы: як самы яркі прыклад недарэчнасці можна прыгадаць эпізод чарговага спаткання Здольніка з Аленкаю, выдатны фарсавы эпізод у купалаўцаў і яўна шматзначна-здзеклівы ў самога Купалы; эпізод, дзе на поўным кінасур'ёзе гучаць развагі Здольніка пра Амерыку для амерыканцаў і Беларусь для беларусаў! На поўным сур'ёзе, паўтараю. Прытым што сам Здольнік (Аляксандр Цімошкін) змушаны рэжысёрам не ацаніць сваіх жа ўласных слоў (я маю на ўвазе акцёрскую ацэнку)!

Купалавых «Тутэйшых», тэатральных «Тутэйшых» зацісну́ў, задушыў, спляжыў кінапобыт. Падрабязнае абжыванне прасторы ў кадры і — нястача, паўтаруся, паветра. Нагрувашчванне таго, што ў тэатры завецца фізічнымі дзеяннямі — мітусня ў кадры і блытаніна ва ўспрыманні гледача... Абсалютнае неразуменне прыроды пачуццяў аўтара, жанру, структуры матэрыялу п'есы, — пры гэтым распрацоўка дачыненняў персанажаў ў фільме вымагае прасталінейнага пытання, якое прасталінейна і задаю: што адбываецца з рэжысураю? Разведзеныя збольшага мізансцэны, сяк-так склееныя эпізоды, напэўна, вымагаюць іншае кваліфікацыі альбо іншае прафесіі... А іншай прафесіяй, — сцэнарыста, — ці валодае рэжысёр? Расповяд, альбо згадка ў тэксце, альбо рэпліка Купалы ў сцэнарыста і, адпаведна, у рэжысёра набываюць, так бы мовіць, экраннае развіццё. Закон мастацтва? Колькі эпізодаў з фільма мусяць увайсці ў энцыклапедыю кіча паводле ўзорнае класікі: напрыклад, літаральна ўвасоблены эпізод прамовы Мікіты на знакамітых вышках (памятаеце расповяд Ганулі Зносчыхі, — маўляў, сцягнулі з вышак і каб мамзель Наста не заступілася — было б!). Той самай фарсавай, карнавальнай прамовы на тэму Генрыха Мотавіча «Буржуазія і пралетарыят», якую, паводле Купалы, толькі рэпеціруе Зносак (абсалютнае неразуменне прыроды аўтарскага тэксту, інакш не скажаш). Напраўду, гэткае не снілася ні фараону, ні Салямону. Альбо эпізод рабавання агульнадаступных складаў, адкуль Мікіта набраў патакі. Першы эпізод прапануе нам натуральнае збіванне Зноска — нагамі, рукамі, парасонамі і — доўтую паўзу-апратанне гаротніка. Другі эпізод прадстаўляе здурнелую масоўку, якой, на маю суб'ектыўную думку, нават пэўна не ўдакладнілі задачы, — гэтая масоўка нешта цягне, разлівае, ірве, дзярэ, — карацей, прадстаўляецца як можа, замест каб побытава-падрабязна, паводле, мэджду протчым, рэжысёрскага почырку, заняцца справаю: час галодны й халодны, а рэчы са склада можна ўзяць патрэбныя. Безгаспадарлівыя ж рабаўнікі больш нішчаць, як бяруць.

Пра паноў афіцэраў, якія пілі мадэру ў гатэлі (Мікіта насіў туды нарабаванае), распавядае ў п'есе і спектаклі сам Мікіта, апраўдваючыся перад яго савецкім родзіем — родзіе прыйшло забіраць Мікіту за краты. Кіна-паны-

## "ТУТЭЙШЫЯ": ВАКОЛ КІНАВЕРСІІ

***Ёсць сітуацыі, калі хочацца сесці за стол, дастаць з шуфляды пісталет і стрэліць самому сабе ў сэрца. Толькі я жыву ў краіне, дзе літаратару забараняецца законам трымаць у пісьмовым стале зброю. Але ж можна паспрабаваць абысці закон. Можна паехаць да аднаго з нешматлікіх прыхільнікаў майго таленту, каб сказаць: «Дзядзька, мне трэба зброя!» «Глобус, — скажа Прыхільнік, — Глобус, паглядзі мне ў вочы і прызнайся...***

***Няўжо ўсё навокал такое безнадзейна-чорнае, што табе захацелася зрабіць дзірку ва ўласным чэрапе?» «Не ў галаве, а ў сэрцы!» — удакладню я. Прыхільнік заўсміхаецца і пойдзе на кухню, каб сабраць якой закускі пад гарэлку, якую «меджду протчым» прыхаплю з сабою.***
***А пакуль ён будзе смажыць мяса ды наразаць салёныя гуркі, я паспею расказаць Табе пра сумную сітуацыю...***

# НЕ ТУТЭЙШЫЯ

Пачалося маё вялікае кіно з выпадковай сустрэчы ў метро. Я апынуўся ў перапоўненым вагоне твар у твар з Віктарам Казько. Павіталіся. І раптам ён прапанаваў мне напісаць сцэнарый поўнаметражнага фільма паводле трагічна-смяшлівых сцэн Янкі Купалы «Тутэйшыя». Трэба было сыходзіць, і я, не надта думаючы, пагадзіўся. Колькі разоў праклінаў тую згоду?! Але што з тых праклёнаў? Узяўся цягнуць? Цягні! І я пачаў Сізіфаву працу. Напісаўшы заяўку, я канчаткова пераканаўся, што адзін не паспею зрабіць сцэнарый, таму пад заяўкаю ўзніклі яшчэ два прозвішчы маіх сяброў-паплечнікаў: Клімковіч і Шайбак. Заяўку мастацкі савет кінастудыі «Беларусьфільм» ухваліў. Дапамог Толя Сыс, ён вельмі тэмпераментна выступіў на савеце. Была заключана афіцыйная дамова. І Казько пазнаёміў мяне з Панамаровым, рэжысёрам. Тады і ўзнікла першае сумненне наконт абранага ў тунелі метро шляху. Панамароў блытаў прозвішчы галоўных герояў п'есы, не адрозніваў, да прыкладу, Зноска і Здольніка, таму Казько даводзілася ўвесь час папраўляць Панамарова, які між іншым (ці, як казаў Мікіта Зносак, «меджду протчым») сказаў, што ўжо два гады намагаецца, каб зняць фільм па забароненым творы Янкі Купалы. Змагацца за Купалу — справа добрая, але варта было б ведаць, за што змагаешся, варта было б пачытаць трагічна-смяшлівыя сцэны і запомніць прозвішчы галоўных герояў. І яшчэ, мусіць, трэба было б гаварыць на мове Купалы. На жаль, Панамароў не валодаў беларускай мовай, як і ягоны цёзка і калега па рамястве Рыбараў. І бывае ж такое, абодва рэжысёры, з якімі давялося працаваць, маюць адно і тое ж імя — Валерый, у абодвух праблемы з моваю, і абодва, скарыстаўшы хвалю беларусізацыі, вырашылі ствараць нацыянальнае кіно. Я, па сваёй наіўнасці, думаў, што беларускае кіно будзе рабіцца людзьмі, якія ведаюць мову; пра літаратуру, гісторыю, культуру, побыт і не кажу. Як жа я памыліўся! Праўда, і рускую мову Валерыі ведаюць, здаецца, не вельмі каб надта. Панамароў у нашым сцэнарыі дапісаў такі сказ: «Тот достает из кармана жилетки охотничью спичку, чиркает его об Никиту...» «Меджду протчым», у сцэнарыі, які выдалі на «Беларусьфільме» ў мярзотназялёнай вокладцы і які стракацеў рускамоўнымі каментарыямі Панамарова, блытаніна з галоўнымі героямі таксама мела месца: вось і «чиркает тот (Борщчык) его об Никиту» (Зноска), які праз колькі старонак зробіцца Мікітам, і сам таго не заўважае і не чырванее. Так не пачырванеў і Панамароў, калі сказаў, што сцэнарый напісаў ён і Купала, а не я з Міраславам Шайбаком і Максімам Клімковічам. Я быў проста агаломшаны такой заявою. Мы тры месяцы сумленна працавалі. Мы з радасцю паклалі на рэжысёрскі стол скончаны твор і выслухалі шмат кампліментаў. Мы нават усе заўвагі мастацкага савета пагадзіліся ўлічыць. І тут раптам, як гром з неба, на агульназразумелай мове: «Так, мальчики: слушайте меня. Киностудия «Белорусьфильм» не имеет никакого отношения к моему фильму. «Тутэйшых» будет финансировать Захар Фейгин и его фирма «Гарант» при АвтоВАЗ «Тольятти». Аванс вы вернете и подпишете договор с моей студией «Спадчына». Вам всё ясно? По новому договору автором сценария будет Пономарёв (доўгая паўза) при скромном участии Глобуса, Климковича и Шайбака». «А калі мы не падпішам новую дамову?» — спытаў самы нецярплівы, бо маладзейшы, Міраслаў. «Тогда не будет участия!». Удакладню, што прапанаваныя ўмовы мелі за сабою прыблізна 10 000 расейскіх рублёў «бруднымі». Карацей, нам прыпадала па 3 - 4 кілаграмы сухой каўбасы. «Мы Радзіму за 5 кіло (яўны перабор) каўбасы не прададзім!» — сказаў Шайбак. А Панамароў паставіў на нашых нядоўгіх узаемаадносінах вялікі крыж, які, дарэчы, будзе з'яўляцца на экране паводле нашага сцэнарыя на працягу ўсяго фільма «Тутэйшыя».

Пасля «каўбасных» размоў мы задумалі змяніць рэжысёра. Кандыдатам на замену выбралі Рыбарава. Ён даволі прыхільна сустрэў нас у кабінеце ўласнай студыі «Ард» («Бліц», а не «Мастацтва»). Нашая другая сустрэча ракавым чынам супала з прыходам у «Ард» рэдактара Казько, які спрабаваў угаварыць Рыбарава экранізаваць успаміны Ларысы Геніюш. Рыбараў адмовіўся, як ад Геніюш, так і ад Купалы. Замест слоў суцяшэння ён сказаў, што сцэнарый «Тутэйшыя» — першы прафесійны твор у гэтым жанры, які яму даводзілася бачыць па-беларуску. А мне пасля высокай адзнакі давялося тлумачыць Казько прычыну майго з'яўлення ў студыі «Ард».

І ўсё ж меў рацыю Дантэ, калі казаў, што шлях у пекла высланы добрымі намерамі.

Пасля таго, я запэўніў Казько, што фільм «Тутэйшыя» будзе зняты, што мы не будзем перашкаджаць Панамарову, што па маіх прагнозах кінастужка «Тутэйшыя» будзе нагадваць школьны дапаможнік, зроблены на «тройку», а на прыкладзе гэтага дапаможніка на працягу бліжэйшых 20 — 30 гадоў настаўнікі беларускай літаратуры будуць тлумачыць школьнікам, якія не любяць кнігі, а любяць тэлевізар, што Янка Купала — геній.

А кемлівы Рыбараў узяў і сказаў, што добра было б, каб замест Купалы і Геніюш яму прапанавалі экранізаваць раман Вячаслава Адамчыка «Голас крыві брата твайго», і яшчэ было б не кепска, каб я напісаў сцэнарый.

Вось так і ўвайшоў я два разы ў адну і тую ж ваду.

Па дамоўленасці з Рыбаравым сцэнарый пісалі тры чалавекі: я, сам Рыбараў і Фелікс Кучар. Праца ішла даволі дзіўным чынам: мы збіраліся ўтрох і абгаворвалі сцэн-план і асобныя сцэны. Потым я ішоў дамоў, дзе мяне чакалі Міраслаў Шайбак і Максім Клімковіч, і я з імі пісаў. Кучар пісаў таксама дома, але адзін. Рыбараў не пісаў нічога, ён толькі складаў сцэн-планы. Мой нататнік, дзе запісваў думкі Рыбарава, пачаў нагадваць «записки сумасшедшего». Давялося спрачацца, і ў выніку зроблены сцэнарый першай серыі быў абвешчаны Рыбаравым як нягожы. Клімковіч з Шайбаком вельмі засумавалі пасля такой навіны, ды не доўга. Праца пайшла. У мяне з Максімам і Міраславам пайшла: мы перапісвалі раманныя сцэны, мы пераплаўлялі іх у кінасцэнарый. Можа, каму і падасца дзіўным, але працу над сцэнарыем па рамане Адамчыка мы разглядалі, як працяг працы над «Тутэйшымі». І ў першым, і ў другім фільме нашы героі стаяць перад выбарам. Ісці з расейцамі? Ісці з палякамі? Ісці з немцамі? Змагацца за незалежнасць Беларусі? Як цяжка было растлумачыць усё гэта Рыбараву, выхаванаму ў расейскім асяроддзі! Паразумення так і не адбылося. Фелікс Кучар

афіцэры п'юць і жаруць, натуральна, у кадры. Эпізод маецца давесці ступень распусты, збэшчанасці і непераборлівасці заваёўнікаў пшэклетных (праклятых), — маюся заўважыць, што любую распусту ў кадры маюцца абмежаваць рамкі аўтарскага густу, — няма густу, няма рамак, на жаль, няма... неабходнае распусты, бо, пададзеная Купалам праз тэкст Мікіты Зноска, яна ператваралася ў фарс, а афарбоўка фарсавай рэплікі ў спектаклі Віктарам Манаевым, я б сказала, удакладняла атмасферу сцэны. Фільму менш за ўсё рупіць глядацкае ўяўленне (мо прырода мастацтва вінаватая?), прапануецца даўно адпрацаваны набор: расшпіленыя мундзіры, перакулены посуд, чыясьці абавязковая пыса ў талерцы з рэштаю ежы, «халера ясная» ды віскат паненак...

Пра беганне Янкі Здольніка з Аленкаю на Купалле пасярод галюсенькіх дзеўчынёх Купала з Пінігіным нічога не апавядаюць і не прапануюць, таму, як і ў эпізодах з лірнікам, коннікамі, кірмашом, рэжысёр Валеры Панамароў абапіраецца толькі на сябе й на сябе: у выніку Янка з Аленкаю цярпліва бегаюць і, калі не памыляюся, нават праз вогнішча скачуць (адзетыя ўжо дзеўчынёхі скачуць пэўна). Гэта, разумееце, немцаў з палякамі выгналі, чырвонаармейцы вось-вось маюцца прыйсці, дык вольную часінку можна і на Купалле скарыстаць. Калі ж гэта — рэтраспектыўны эпізод чыіхсьці ўспамінаў ці мрояў, дык перапрашаю, хоць з агульнае будовы кінатвора такога тлумачэння не вынікае. Не вынікае з пабудовы і з'яўленне Усходняга і Заходняга вучоных (у адным з эпізодаў тэкст Здольніка пра Пінскае балота аддадзены Зноску і акцёр Аляксандр Барынаў, выканаўца ролі, змушаны прамаўляць яго ледзь не патэтычна, — пра Пінскае балота, ведаеце, толькі з патэтычна-пранікліваю (а вось так!) інтанацыяй можна згадваць, — «сымбаль твой, забыты краю родны»); ператрактаванне ў прыстойна местачковага інтэлігента Генрыха Мотавіча Спічыні (безумоўна, Сямён Фарада зачаруе адным сваім з'яўленнем на экране, і вы, сочачы, будзеце адно бачыць: Фараду!), — у Купалы ён аб'ёмнейшы, характарнейшы, а ў Пінігіна, скажу проста, вырашаны таленавіта; і развіццё вобраза Пралетарыя, які ў Купалы з'яўляецца эпізадычна і мае ўсяго тры, але ж вельмі шматзначныя рэплікі (Браніслаў Брандукоў мусіў іграць проста лёс-долю шараговага злодзея, але ў эпізодзе выкрадання грошай Мікіта-разявака сам вінаваты, — на кірмашовым пляцы журыцца няможна, трэба грошы пільнаваць!). Рэйды коннікаў не робяцца вобразам фільма, хоць іхнія камандзіры спраўна цягаюць перад сабою глобусы (дзівосная бяссэнсіца з прэтэнзіяй на метафару), аднак досціп Кугеля пра конскія дозы мастацтва яны такі выклікаюць на ўспамін сваім настойлівым швэнданнем (гэтаксама перазоў са спектаклем, — менавіта Пінігін прапанаваў неканкрэтызаванае ўвасабленне заваёўнікаў, ператварыўшы іх у вобраз, — фільм, на жаль, нават з даступнага, з таго, што тэатр проста дарыць, скарыстацца не змог).

Апафеоз стужкі — рушэнне паспалітага люду ў этнаграфічных строях у этнаграфічны ж музей, — музей, нават зняты з вышыні птушынага палёту (аператары-пастаноўшчыкі, да якіх у мяне, як у непрафесіянала, няма прэтэнзій — Барыс Аліфер і Аляксандр Абадоўскі) пазнаецца адразу і гэтае пазнаванне нешта там шапоча пра стыль, манеру, эстэтыку, мастацкія і мастакоўскія прыёмы, але этнаграфічныя беларусы так шпарка імкнуць па вулках музейнае вёсачкі, але вытыркаецца лірнік з адвечнаю сваёю шкадобаю — без дзіцяткі гэтым разам, але наплывае камера на Анікейчыкаў помнік Купалу, кальцуючы вобразна змастачанае вырашэнне, — «такая паводка, такая чырвоная паводка» (прашу не разумець мяне літаральна, беларусы апрануты ў этнаграфічнае) не снілася ні фараону, ні Салямону. Агульныя планы рушэння і краявіды Бацькаўшчыны пад закадравае «Людзьмі звацца!» выклікаюць шэраг рытарычных ... прымоўчванняў. Альбо, паводле ўлюбёных класікаў, старажытнагрэцкага эпахе — устрымвання ад меркавання.

**Жана ЛАШКЕВІЧ**

---

па-філасофску заняў трэці бок — абставіны заўсёды мацнейшыя за чалавека. У пэўнай ступені Кучар меў рацыю. Міраслаў Шайбак з Максімам Клімковічам настолькі стаміліся ад бясконцых пераробак і перасоўванняў сцэн з месца на месца, што пабралі квіткі на самалёт і паляцелі ў вырай. Перастаў пісаць і Фелікс Кучар. Рыбараў спакойна сачыў, як я марудна паўзу да фінальнай сцэны, у якой беларус забівае беларуса, заколвае трохкантовым расейскім штыхом за тое, што паэт, што ўздымаў бел-чырвона-белы сцяг, што адмовіўся забіваць сваіх, тутэйшых, беларусаў... І тут здарылася зусім ужо недарэчнасць: машыністка, якая перадрукоўвала бясконцыя варыяцыі «Голасу крыві брата твайго», сказала, што варта скончыць сцэнарны марафон, бо і яна болей не можа гэтага друкаваць.

У Рыбарава на стале ляжаў мой сцэнарый. Мая душа і маё цела патрабавалі адно адпачынку, і мне было ўсё адно, што скажа Рыбараў. А ён гаварыў нешта супакаіцельнае, пяшчотнае і ласкавае, мусіць, баяўся, што ў мяне адбудзецца нервовы зрыў, і я не дам яму сцэнарый. А я думаў пра іншае — пра цёплае Чорнае мора, пра абхазскае сонца і гарачы пясок на пляжы. Адпачынак лясnуўся! Я пераблытаў дзень, з якога пачынаецца пуцёўка, замест 14 жніўня ўзяў квіткі на 15. А 14 ў Абхазіі пачалася вайна за незалежнасць. Вось як супала.

Дарэчы, пра пісталет...

З кухні будзе салодка патыхаць смажанінаю. Будзе патрэскваць на паніве сала. «Зараз. Усё будзе!» — пачуецца задаволены голас Прыхільніка.

А я паспею яшчэ сказаць Табе колькі слоў...

Рыбараў, як і ягоны папярэднік Панамароў, сказаў мне проста ў твар, што сцэнарый напісаў ён адзін. Рыбарава нават не спыніў той факт, што галоўны герой фільма чытае мае вершы: «Мы — беларускі рух! З намі крывіцкі дух...» Прытомнасці я не страціў. Мне стала проста гідка, ну і крыўдна, вядома.

Дадому ішоў пешкі і думаў. Колькі рэжысёраў рабіла тэатральныя пастаноўкі да экранізацыі твораў Янкі Купалы? Процьма! Колькі разоў экранізавалася проза Вячаслава Адамчыка? Шмат! А калі згадаць старажытную класіку: Сафокл ды Арыстафан. Ты толькі ўяві, колькі рэжысёраў пагрэлася каля вогнішча, раскладзенага вялікімі майстрамі. Узнікла дзіўная паралель з архітэктурай. Ёсць архітэктар, ёсць ягоная праектная майстэрня, ёсць і прараб на будоўлі. Прараб, «меджду протчым», можа сказаць архітэктару, што на будаўнічай пляцоўцы ён галава. Яны, прарабы, так і гавораць, колькі разоў чуў. Што ж я магу зрабіць, калі ўсё яшчэ пралетарыяту належыць улада? Што змянілася? Мусіць, толькі адно: я займеў сціплае права расказаць Табе сумную гісторыю...

Я не ведаю, як правільна называць паводзіны Панамарова і Рыбарава, каб гэта адпавядала крымінальнаму кодэксу... Шальмаванне? Падман? Зладзейства?.. Бог ім суддзя!

Прыхільнік паставіць на стол талерку з падсмажанымі скабкамі. «Налівай, Глобус! Дык кажаш — патрэбна зброя? Кажаш, сэрца табе баліць? Бывае. Ведай, я прадам табе зброю толькі тады, калі захочаш выстраліць ад сябе. Зразумеў? Ад сябе!»

А мне падумалася, што адзіная зброя, вартая разумнага чалавека, — проста востры аловак, вядома, калі не выпорваць вочы.

**Адам ГЛОБУС**

---

*Міхал КАЗІНЕЦ:*

# "МЫ Ў ДАРОЗЕ, А ЗНАЧЫЦЬ -- У БУДУЧЫНІ..."

**— Афіцыйныя святкаванні пачаліся 17 сакавіка: спектакль опернай студыі Акадэміі, канцэрт народна-інструментальнай музыкі. Учора адбылося юбілейнае пасяджэнне вучонай рады, затым — канцэрт камернай музыкі з удзелам лепшых выпускнікоў ды педагогаў. Сёння з раніцы — экскурсія для гасцей з блізкага і дальняга замежжа, сустрэчы на факультэтах і кафедрах, а ўвечары абвешчаны ўрачыстасці ў філармоніі з удзелам Сімфанічнага аркестра Акадэміі... Міхал Антонавіч, і ў якім жа вы настроі гэтыя тры дні?**

— Свята павінна рабіць і настрой. Тым больш, я лічу, Беларуская акадэмія музыкі, былая кансерваторыя, павінна была ствараць на працягу 60-гадовага свайго жыцця добры настрой у людзей. Таму што музыка заўсёды побач з чалавекам, як і хлеб, як вада, як маці, як мова, — без музыкі нельга. І, на мой погляд, усе гэтыя 60 гадоў кансерваторыя адпавядала свайму наканаванню. Тыя здабыткі, што маем на сённяшні дзень у творчых калектывах, у навучальных установах Беларусі, — гэта таксама справа нашай ВНУ, калі ўлічыць, што оперны тэатр, тэатр музкамедыі, нашы аркестры, хоры, музычныя школы ды вучылішчы, — гэта ў асноўным кадры, выхаванцы Беларускай акадэміі музыкі. Многія з іх — людзі знакамітыя, якія сваёй асобай, сваёй творчасцю вызначаюць сённяшні стан нашай музычнай культуры. Гісторыя Акадэміі — гэта гісторыя беларускай музычнай педагогікі ды творчасці на працягу 60 гадоў, гэта больш чым палова XX стагоддзя. Сёння, я лічу, можна ганарыцца здабыткамі, якія кансерваторыя займела за гэты час.

**— Дарэчы, госці ўрачыстасцей, дый рэдакцыі газет атрымалі невялічкую даведку пра Беларускую акадэмію музыкі, складзеную прафесарам В.Яканюком. Колькі прозвішчаў — а гэта значыць асоб, мастацкіх і навуковых з'яў, падзей, проста цікавых фактаў культурнага жыцця, — змяшчаецца паміж дзвюма датамі: 1932 — 1992. Нялёгкая, супярэчлівая, драматычная дарога — ад кансерваторыі 1932-га да Акадэміі музыкі. Ад традыцый, закладзеных В.Залатаровым і М.Аладавым, А.Бяссмертным, Ю.Дрэйзіным і А.Баначычам, Г.Пятровым, М.Бергерам, І.Жыновічам, Л.Мухарынскай, Р.Шаршэўскім, І.Цвятаевай — да сённяшняга педагагічнага вопыту А.Багатырова, У.Алоўнікава, Я.Глебава, В.Роўды, Т.Ніжнікавай, А.Генералава, Т.Шчарбаковай, Г.Глушчанкі, М.Солапава, Я.Гладкова, Д.Смольскага, Б.Нічкова, М.Волкава, М.Сеўрукова, Л.Івашкова... Аднак не будзем стамляць чытачоў прозвішчамі: урэшце, усе яны так ці інакш з'яўляліся на старонках «ЛіМа»... А чым бы вы, Міхал Антонавіч, патлумачылі ўсплеск міжнародных перамог маладых беларускіх музыкантаў ды іхніх педагогаў менавіта ў юбілейным годзе?**

— Вельмі значныя ў апошнія гады вынікі нашай педагагічнай і творчай працы вызначаюцца, мусіць, тымі абставінамі, што мы сталі незалежнай Рэспублікай Беларусь. І нас не проста шукаюць на карце, як некалі, — маўляў, дзе там знаходзіцца Мінск, дзе тая Беларусь. Пакрыху Еўропа пачынае прызвычайвацца, што ёсць не толькі Маскоўская ды Пецярбургская кансерваторыі, а існуе кансерваторыя Беларуская. У нас займаецца цэлы шэраг замежных студэнтаў, нас зараз слухаюць, да нас едуць, каб вучыцца, бо многае падабаецца, што ёсць менавіта ў нас.

**— Замежныя студэнты — хто яны?**

— У нас вучыцца моладзь з Італіі, Югаславіі, Алжыра, Фінляндыі. Чакаем вялікую групу з Кітая — адпаведнае пагадненне заключана. Кітайскія калегі вельмі зацікавіліся нашай Акадэміяй, калі азнаёміліся з навучальным працэсам, пабылі ў нас на канцэртах. Сам я, калі быў у Пекінскай кансерваторыі, заўважыў, што там усё навучанне ладзілася паводле праграм і планаў былога СССР, таму што большасць выкладчыкаў, прафесароў Пекінскай кансерваторыі скончыла пецярбургскую ды маскоўскія музычныя ВНУ і даражаць гэтым. І тыя гады, калі перарваліся былыя сувязі, адбіліся там не лепшым чынам, таму кітайскія калегі хочуць мець з намі творчыя адносіны ў навучанні студэнтаў: нашы традыцыі таксама грунтоўныя. А яшчэ за апошнія 2 - 3 гады ў нас наладзіліся вельмі добрыя сувязі з Акадэміяй музыкі горада Катавіцы, Вышэйшай школай у Берліне, кансерваторыямі ў Ростаку, у Любляне, мацуюцца кантакты з кансерваторыяй французскага горада Нансі. Да нас прыязджаюць выдатныя прафесары з Амерыкі, праводзяць майстар-класы і адкрытыя ўрокі. Так што ў гэтым плане мы выходзім за межы роднай Беларусі, значыць яшчэ большай робіцца адказнасць — не толькі перад сваім народам, але і перад станам нашай музыкі ва ўяўленні дасведчаных іншаземцаў.

**— Гэта вельмі добра, калі — ой, не люблю гэтае словазлучэнне — музычныя кадры папаўняюцца вашымі выхаванцамі. Цудоўна, што іншаземцы давяраюць вышэйшай музычнай школе Беларусі, накіроўваючы сваю моладзь вучыцца менавіта ў Мінск. Але апошнім часам у нашай рэспубліцы пачынае скарачацца набор у ДМШ, у вучылішчы...**

— Ведаеце, вы закранулі вялікі боль нашай культуры. На сённяшні дзень, з аднаго боку, як быццам мы і незалежныя, а з другога — рынак пачынае дыктаваць тыя ўмовы, у якіх навучальны ды навуковы працэсы могуць быць вельмі стрыманыя, што потым абернецца вялікім болем у нашай музычнай культуры. Непапраўнае пакуль не здарылася, і ў Акадэмію прыём не скарачаецца, бо дзяржава, фундатар наш, разумее, што пры ўсіх цяжкасцях музычная адукацыя — справа неабходная. Мы пакуль што маем прыём, які быў у кансерваторыі на працягу 10 апошніх гадоў. Як быццам усё ў парадку? Але мяне турбуе іншы бок гэтай справы. Таму што кансерваторыя як верхняя будова «піраміды» базавай музычнай адукацыі не можа існаваць сама па сабе. Яна толькі тады будзе ўстойлівай, як будзе вялікі прыток даравітай моладзі да нас, калі будзе трывалай музычная школа як пачатковае звяно навучання, калі будзе трывалае музычнае вучылішча і наш Рэспубліканскі ліцэй. Але глянем, што тут робіцца. Колькі каштуе, напрыклад, інструмент: піяніна — 300 тысяч, баян таксама не менш. Скрыпка, духавыя... Ці захоча бацька паслаць сваё дзіця ў музычную школу, калі ён перш за ўсё павінен падумаць, як жыць у сённяшніх нестабільных абставінах?

Не пашле сваё дзіця навучацца у ДМШ адзін, другі... Тым самым штучна будуць стрымлівацца нашы людзі ў лепшых сваіх памкненнях, бо не будуць дакранацца да вялікай крыніцы музыкі. Перш за ўсё гэта ўдарыць па пачатковым звяне, ДМШ, адчуецца потым гэта ў сярэднім звяне, адаб'ецца праз некалькі гадоў на стане Акадэміі. Гэта вельмі мяне хвалюе. Пэўна, ведаюць і ўрад наш, і Вярхоўны Савет, у якія абставіны мы ідзём. І калі не праявіць дальнабачнасць, калі не будзе падтрымкі ды абароны нашых музычных устаноў на дзяржаўным узроўні, я лічу, што праз некалькі гадоў мы ўведаем, у якім стане апынецца наша музычная культура. Гэта па-першае.

Па-другое. Калі мы зрабіліся Акадэміяй музыкі, адбылася не проста змена назвы, адкрыліся зусім іншыя варункі развіцця беларускай музычнай культуры. Акадэмія павінна зрабіцца сапраўдным навучальным, навуковым цэнтрам музычнай адукацыі на Беларусі. А тая матэрыяльная база, якая сёння існуе ў Акадэміі, стрымлівае рост, мы не можам адкрываць нейкія новыя напрамкі, таму што ў нас не хапае пакуль элементарнага. На цяперашнюю колькасць студэнтаў не хапае таго аўдыторнага фонду, які ў нас ёсць. Прабачце, але можаце гэта падкрэсліць, — мы чатыры туалетныя пакоі перабудавалі ў класы! Будынак кансерваторыі на пляцы Волі быў узведзены ў 57-ым годзе. Тады яго разлічвалі на 200 студэнтаў. Сёння іх больш за тысячу, працуе і больш за 200 выкладчыкаў, заняткі ладзяцца з 8.30 да 22.3О. Няма паўнацэннай канцэртнай залы, няма бібліятэкі як навуковага і навучальнага асяродку — проста ёсць месца, дзе

*(Працяг на стар. 12)*

# "МЫ Ў ДАРОЗЕ, А ЗНАЧЫЦЬ--У БУДУЧЫНІ..."

*(Пачатак на стар. 11)*

захоўваецца 250 тысяч найвыдатных музычных рарытэтаў. У нас адсутнічае належная фанатэка і кабінет гуказапісу, аўдыторый не маюць кафедры, факультэты. Наш будынак прыдатны толькі для правядзення чыста навучальнага працэсу, а ўсё тое, што напаўняе, сілкуе сам навучальны працэс, — з гэтым вялікія цяжкасці.

Яшчэ ў 68-м колішняе кіраўніцтва кансерваторыі звярталася да ўрада — каб павялічылі аўдыторны фонд. Як бачыце, прайшло ўжо чвэрць веку, а ўсё амаль як было. Праўда, мы атрымалі невялікае памяшканне па вуліцы Кірылы і Мяфодзія, але на яго прэтэндуюць прыхаджане, якія хочуць навучаць сваіх дзяцей у гэтым памяшканні як у нядзельнай царкоўнай школе. Ёсць і цудоўная пастанова Саўміна ад 1988 г. наконт перадачы нам будынка аблсаўпрофа, але пакуль што гэтае рашэнне ніяк не выконваецца. Калі б гэты дом, што зусім побач з нашым, перадалі Акадэміі музыкі, — гэта было б дзяржаўнае вырашэнне праблемы. Будынак цяперашняга аблсаўпрофа цалкам адпавядаў бы нашаму статусу і тым задачам, якія стаяць сёння перад Акадэміяй музыкі, дый перад Беларуссю.

**— Чужы вопыт вас у такой сітуацыі не ўратуе?**

— Я лічу, што як бы мы ні крыўдавалі на стан нашага музычнага навучання, а тая класічная форма, што ў нас ёсць — трайстая форма (школа — вучылішча — кансерваторыя), яна самая стройная, і яна, як паказвае жыццё, самая прафесійная. Тут мы выглядаем куды лепш, чым замежжа, дзе шмат прыватных школ, а многае трымаецца на аматарскім узроўні ў школах з агульнай адукацыяй. Але вядома, што ўсе вышэйшыя навучальныя музычныя ўстановы трымаюцца і «там» за кошт дзяржавы і толькі дзяржава падтрымлівае гэтае навучанне. З тым, што бачыў я ў Берліне, у Катавіцах, у Варшаве, пытанне аўдыторнага фонду наогул не стасуецца. Тамтэйшыя будынкі ўзведзеныя ў свой час з такім разлікам, што і сёння месца хапае. І ёсць цудоўныя бібліятэкі, фанатэкі, кабінеты гуказапісу, цудоўны інструментарый. А цудоўны інструмент робіць і студэнта такім, якім той павінен быць. Высокую прафесію можна спазнаць праз інструмент высокай якасці.

**— Міхал Антонавіч, згадаўшы нашы з вамі колішнія гутаркі, можна толькі ўздыхнуць: а праблемы-то ўсё ж тыя... Я разумею некарэктнасць пытання ў такі дзень, аднак: чаму 60-годдзе кансерваторыі святкуе... Акадэмія музыкі? Ці не паспяшаліся з перайменаваннем? Ёсць жа ў свеце кансерваторыі — ВНУ з традыцыямі высокага кшталту. А ў нас яшчэ і праблемы старыя, дый музыканты па звычцы кажуць «кансерваторыя», паняцце «акадэмія» пакуль не прышчапілася...**

— Магчыма, гэта па інерцыі — схільнасць да старой назвы... Па сапраўдных еўрапейскіх маштабах кансерваторыя азначае сярэднюю навучальную ўстанову, а не вышэйшую. І калі мы сустракаліся з замежнымі калегамі, то нас лічылі сярэднім вучэбным звяном, як музычнае вучылішча. «Там» ёсць паняцці «вышэйшая музычная школа», «акадэмія», хаця, праўда, ёсць і Парыжская кансерваторыя, напрыклад.

Для нас само слова «акадэмія» ўключае шэраг новых паняццяў: стварэнне лабараторый трыдыцыйнай музыкі ды сацыялогіі музыкі, у будучыні — стварэнне інстытутаў пры Акадэміі музыкі, таму што мы адзіная навучальная і навуковая ўстанова, якая павінна ў сябе ўвабраць усю музычную адукацыю на Беларусі. Цяперашняя назва павінна несці на сабе адпаведную нагрузку. Так, сёння мы не проста кансерваторыя ў СССР, Мінская, як было зусім нядаўна, — мы вышэйшая музычная навучальная ўстанова, адзіная ў незалежнай Рэспубліцы Беларусь.

**— А вы дапускаеце з'яўленне з часам кансерваторый (акадэмій) у абласных цэнтрах, скажам?**

— Такое магчыма. У нас жа ўжо сёння працуе створаны ў Магілёве педагагічны факультэт! Магчыма, потым ён і ператворыцца ў ВНУ. Я лічу так: падрыхтоўка спецыялістаў для вучылішчаў мастацтваў, для школ з музычным ухілам павінна ладзіцца на базе фундаментальнай музычнай адукацыі, г.зн. на базе Акадэміі. Праз 3 гады будзе першы выпуск нашага педагагічнага факультэта ў Магілёве. Мяркую, іншыя абласныя цэнтры павінны адкрыць такія факультэты, якія ў будучым могуць ператварыцца ў кансерваторыі. Чаму іншыя маленькія рэспублікі — дапусцім, Бельгія, маюць па 4-5 кансерваторый, а ў нас адна? Жыццё сваё скажа. І калі мы думаем пра будучыню музычнага выхавання нашых дзяцей, а гэта значыць народа, то павінны забяспечваць адукацыю на падмурку акадэмічным.

**— Можа, наступны юбілей вы ўжо будзеце сустракаць як музычная ВНУ не ў адзіноце...**

— Дай Бог. Я лічу, гэта было б нядрэнна. Гэта было б па-сапраўднаму, па-дзяржаўнаму апекаванне музычнай адукацыяй. І хай так будзе. Толькі падкрэсліваю: калі ў нас загіне ніжэйшае і сярэдняе звенні, дык верх «піраміды» разваліцца...

**— Міне свята, якія праблемы выйдуць на першы план?**

— Я не лічу, што юбілей — гэта нейкі рубеж, прыпынак. Лічу, што мы ў дарозе, а значыць мы ўсе — у будучыні. І ёсць шмат задумак па ўдасканаленні навучальнага працэсу, па пераходзе на двухузроўневую сістэму адукацыі. Але як бы мы пра гэта ні разважалі — калі ў нас не палепшыцца матэрыяльная база, усё застанецца на словах, толькі словах пра вышэйшы еўрапейскі ўзровень аснашчанасці, якому павінна адпавядаць Акадэмія музыкі ў цэнтры кантынента.

**— Не будзем зараз разважаць пра тое, ці паўплывае юбілей нашай адзінай вышэйшай музычнай навучальнай установы на афіцыйнае стаўленне да стану, да лёсу музычнай адукацыі на Беларусі. Свята ўсё-такі свята. Я віншую вас, Міхал Антонавіч, і дзякую за шчырую размову.**

С.БЕРАСЦЕНЬ

## Павел МІСЬКО



### З РЫФМАЙ «БЯДА-ВАДА»

Нейкі душэўны разброд,
Разумовая тузаніна,
Раку пераходзяць уброд,
А я ўсё шукаю глыбіні.
«Мятоды» мае такія,
Як колісь былі, да патопу:
Брыду і тыцкаю кіем,
І — замінаю патоку.
Ні дасягненняў навукі,
Ні камп'ютэраў, кібернетыкі...
Дрыжаць ад напругі рукі...
Пасміхваюцца тэарэтыкі.
Дамацаўся да бяды:
Пад кіем
няма
дна!
Таплюся не ў лыжцы вады —
І ў гэтым уцеха адна.

### ПАЦВЯЛЯЮЧЫ КЛАСІКАЎ

Зноў завея-круцеліца,
Ныюць сумна званы,
Пышна-роскашна сцелюцца
Беллю ўбраныя дываны.
*То не лебедзі белыя*
Селі-палі з нябёс...
Можа, думы збалелыя?
Мо няспраўджаны лёс?..

●

Паміраюць дрэвы, паміраюць...
Золата і барва — крык душы:
«Не чакайце на тым свеце раю,
Стой на гэтым свеце і дышы,
Лісце, кветкі, птушак калышы!»
А калі табе наканавана
І хадзіць, і лётаць, і рабіць,
На сябе падобнага радзіць,
Дык чаго стаіш, як укапаны?
Ты не слуп!
Жыць трэба і любіць!

### НАСТАЛЬГІЯ

Белы конь і белая завея...
Ветру-скрыпкі тонкі-тонкі звон.
Паліць сонца вэлюм, ружавее,
І бухмаціцца, як кветка, сон...

Сон-трава... Ліловасці паводка...
Палазы пяюць... Мароз-мароз!
І не сані ўжо, а быццам лодка,
Не віхура — ветразь да нябёс.

Вось і вёска. Вецер не лютуе.
З кажухоў вылазім, як краты.
Трэскам страляніны салютуюць
Ад марозу стылыя платы.

### ЭЛЕГІЧНАЕ

Певень захлынуўся шчасцем звонка,
Цішу раскалоў надрэчных лоз,
Пазяхае бор і кожнаю сасонкай
Ружавее сорамна спрасонку
Ды пасуе ўдалеч адгалос.

●

Зоркі блякнуць у цёмным віры,
Вабяць зманам навекі ў прадонне,
Нібы золата, што ліхвяры
Прапануюць юнцам у прытоне.
Ведай: боўтнеш туды з галавой —
Напаверх нават шчуркі не ўзыдуць.
Як за грошы прадаўся душой,
Станеш братам біблейскаму жыду.
Трыццаць срэбнікаў Юда здабыў,
Цешыў сэрца, хоць бачыў: замала!
На той момант прадажнік забыў —
Срэбра лёсы мільёнаў зламала.
Срэбра-золата — прагнасці бог,
Што Хрыстос з яго верай і праўдай?
І ніякі маральны парог
Не спыняе бязбожнікаў-прайдаў.
Дзе святога гарэння агонь?
Дзе служэнне высокае людзям?
Слугі д'яблавы слугі яго,
Пракляне іх народ і забудзе!

●

Гівал беларускі — ліст асенні жоўты,
Плача ў голым садзе, дзе галінак звісь,
І куды б ні ехаў, і куды б ні йшоў ты,
Рэжа сэрца болем той птушыны свіст.

Гівал непадкупны, што ты ўсё прарочыш?
Што ты ўсё чакаеш непагадзі дні?
Яшчэ грэе сонца, яшчэ свецяць вочы,
Яшчэ сэрца цешаць грэшныя агні.

Гівал непадкупны як вяшчун-філосаф
Тэзе антытэзу ўпарта падае:
«А жыццё ж — трагедыя, так заўжды вялося,
Нам жыцця пад сонцам вечна не стае».

Гівал беларускі, стоік мой, бядача,
Былі чорнай ведаю я даўно цану...
А жалейка-гівал горка ў садзе плача,
Песеньку спявае ўсё адну, адну...

# ПАДАРОЖЖА Ў ПРАВІНЦЫЮ

*(Пачатак на стар. 5)*

ўдзельнічаў у працы БЦР. Пасля вайны вымушаны быў эмігрваць і да самай сваёй смерці жыў у Аўстраліі. Як і большасць нашых суайчыннікаў, Малецкі вызначаўся стараннасцю і працавітасцю, бо, пачынаючы фактычна з нуля, паводле чутак, здолеў зрабіць сабе такі-сякі маёнтак. Разам з тым аніколі не выракаўся беларускай справы і незадоўга да смерці выдаў цікавую кніжку ўспамінаў, якая называецца «Пад знакам Пагоні».

З тых часоў, калі Малецкі ладзіў у гэтых краях беларускія гурткі, ствараў беларускія класы, прайшло амаль паўстагоддзя. А сітуацыя з роднай мовай на сёння амаль такая ж, як была ў тыя часы. Чацвёрты год пайшоў, як прыняты Закон аб мовах, паводле якога канчатковая беларусізацыя павінна быць ажыццёўлена на працягу дзесяцігоддзя. Паводле маіх асабістых меркаванняў — гэта занадта доўгі тэрмін, і менавіта гэтая расцягнутасць у часе вядзе да таго, што пакуль беларусізацыя шмат дзе носіць толькі касметычны характар. Асабліва на правінцыі. Ці ж не смешна, што тут, у глыбінцы, дзе рускаю моваю валодаюць адзінкі, а асноўная маса насельніцтва карыстаецца звыклаю трасянкай, чакаюць канца дакляраванага законам дзесяцігоддзя, каб урэшце «беларусізавацца».

Калі абмінуць сферу адукацыі, дзе нешта ўсё ж робіцца, а зазірнуць у іншыя куткі правінцыйнага жыцця, можна заўважыць, што справа беларусізацыі пакуль што стаіць фактычна на нулі. І не таму, што людзі не хочуць ці не жадаюць пераходзіць на родную мову. Вельмі часта яны проста не ведаюць, з якога канца ўзяцца за гэтую справу. Возьмем, напрыклад, медыцыну. У Мёрах, ва ўжо згаданым чырвоным касцёле, мяркуецца ўзвесці помнік ненароджанаму дзіцяці, бо акурат насупраць касцёла, вокны ў вокны, месціцца мясцовая раённая бальніца. У касцёле людзі лечаць сваю душу, у шпіталі — цела. З Богам яны гавораць на роднай мове, а з доктарам у бальніцы хочаш не хочаш, але мусяць старыя вясельцы ў рускай трасянцы. Хоць, да прыкладу, загадчык хірургічнага аддзялення Іосіф Казіміравіч Каплун не горш за айца Пятрайціса валодае беларускаю мовай. Гэты чалавек мае вельмі вялікі аўтарытэт і павагу. Сам выхадзец з Гародзеншчыны, ён прыехаў сюды, у Мёры, у 60-ыя гады, ды так і застаўся. Іосіф Казіміравіч перакананы ў неабходнасці як мага хутчэйшага пераходу ўсіх медыцынскіх установаў на родную мову, бо гэта, як ён кажа, павысіць прэстыж урача ў вачах насельніцтва, палепшыць дыягностыку захворванняў. Між тым пакуль што ў бальніцы карыстаюцца толькі расійскаю моваю, часам трасянкаю, хоць на восемдзесят працэнтаў персанал шпіталя мае свае мясцовыя кадры. Чаму ж так адбываецца? Справа ў тым, кажа Іосіф Казіміравіч, *што ёсць у нас пэўная спецыфіка*, якая ўскладняе сітуацыю. У нашым справаводстве пераважае медыцынская тэрміналогія, якая патрабуе дакладнага перакладу. І таму адной з неадкладных задач бачыцца выданне слоўніка медыцынскай тэрміналогіі. А пакуль што, працягвае ён, варта скарыстаць вопыт суседняй Латвіі. Зусім нядаўна я сустракаўся з адной сваёй знаёмай, урачом, беларускай, якая жыве там. Яна расказала, што здала залік па латышскай мове пасля парумесячных курсаў і зараз афіцыйна дапушчана да працы. Я перакананы, кажа Іосіф Казіміравіч, *што і ў нас ва ўсіх установах аховы здароўя трэба* правесці курсы беларускай мовы па пэўнай праграме, куды б уключаліся пытанні граматыкі, медыцынскай тэрміналогіі, а таксама агульныя звесткі па гісторыі, літаратуры, мастацтве. І несумненна, з абавязковай здачай заліку ў канцы. Да гэтай працы, як цалкам слушна мяркуе доктар, можна прыцягнуць мясцовых настаўнікаў, актывістаў ТБМ. Тым больш, што бальніца нядрэнна забяспечана матэрыяльна і ў стане сама фінансаваць гэтую справу.

На маё пытанне, ці рабіліся якія-небудзь захады наконт гэтага, Іосіф Казіміравіч адказаў, што ён неяк гутарыў з мясцовай настаўніцай беларускай мовы, але яна не рызыкнула прыняць такую прапанову. Зрэшты, гэта і зразумела: самастойна, без распрацаванай загадзя праграмы, куды б уключалася і тая ж прафесійная лексіка далёка не кожны справіцца з такой працай. Як бачыце, мы зноў вяртаемся ў сталіцу, да інстытута мовазнаўства, якi, пэўна ж, мае такія распрацоўкі, да кіраўніцтва ТБМ, якое б дало пэўныя ўстановы свайм актывістам зрэалізаваць гэтыя праграмы на месцах.

А пакуль... Пакуль жыццё ў правінцыі ідзе сваім шляхам. Дні ляцяць хутка і аднастайна. Ужо адсвяткавалі Каляды, *прайшлі* і Тры Каралі. *Яшчэ нядаўна* шыкоўна прыбраныя ў золата і срэбра калядныя ёлкі сіратліва зелянеюць на сметніках. Мёрскае возера зацягнута зеленавата-шэрым ільдом, і ў ім не адбіваюцца пакрытыя снегам высокія вежы чырвонага касцёла і пакатыя стрэхі прыземістых бальнічных будынкаў. Стоеныя і спішаныя, яны чакаюць вясны.

*г. Мёры*

# «ВЫХОДЗЬ, МОЙ РОДНЫ БРАТ!»

*Вершы дзеяча БНР Пётры КРЭЧАЎСКАГА*

8 сакавіка 1928 года ў Празе памёр Прэзідэнт Рады БНР Пётра Крэчаўскі. Жывучы на эміграцыі ў Коўне, а з 1923 года ў Празе, ён рэпрэзентаваў паняволеную бальшавікамі і палякамі Бацькаўшчыну. Пасля Берлінскай канферэнцыі 1925 года многія аўтарытэтныя дзеячы БНР, прызнаўшы савецкую ўладу, пераехалі з эміграцыі ў БССР. Пётра Крэчаўскі не кінуў ідэі незалежнасці, не склаў сваіх паўнамоцтваў і годна служыў ёй да канца жыцця.



Апрача палітыкі, ён браў актыўны ўдзел у культурным жыцці нашай эміграцыі. Сёння, ушаноўваючы імя гэтага выбітнага сына Кобрыншчыны ды ўсяе Беларусі, знаёмім чытачоў з ягонымі паэтычнымі творамі. Гэтая аматарская нізка вершаў упершыню была змешчана ў зборніку «Замежная Беларусь», выдадзеным у Празе ў 1926 годзе.

## БЕЛАРУСКАМУ НАРОДУ

Дзе слава наша, слаўны род
Славян з прадвеку жыўшых вольна,
Выходьзь жа, беларус-народ,
Са братняй крыўды безпатольнай.

Выходзь на свет з багна-балот,
Як тыя рэчкі, што нясуцца
З зямлі тваёй на поўдзень, ўсход —
Выходзь, выходзь.

•

Пад смех братоў сваіх славян
І помсты ворагаў бязмерных
Дружынай смелаю сялян
Выходзь на змогу сілай вернай!

Няма той сілы, перашкод:
Паводка ўстрыму не баіцца,
Упярод жа, беларус-народ,
Выходзь, выходзь!

•

З пад чорных, курных хат
На волю, на прастор,
Усім на перакор,
Выходзь, мой родны брат!

Твой край із края ў край —
Дыван кветак і рэк шумлівых,
Непераходных пушч, — цудоўны гай,
Зуброў прытулак, сэрц пужлівых.

І толькі ты адзін —
Патолі, працы сын —
Не гаспадар — батрак.
Не-не! ...не будзе так!

Выходзь жа з чорных хат
На волю, на прастор,
Усім на перакор,
Мой беларускі брат!

## МАНА

Нідзе не лёгка так блудзіць,
Як у горах і далінах:
Дзе ўсё ля вашых ног ляжыць,
А покуль дойдзеш — згінеш...

Сцяжынкі пекныя бягуць
Уздоўж, — налева, управа,
Але якраз цябе вядуць
У другі бок ласкава...

Хоць на гарэ, а не відаць
І быстрым вочам мэты,
І як сляпы гатоў блукаць
Ад ночы ты да свету.

На вышку ўлезшы камуніст
Пажарам свет пужае...
А што крывёй ўнізе чэкіст
Яго згасіў — не знае.

# СІМВАЛ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

*(Пачатак на стар. 3)*

і «Нашай Нівы», захавалі іх адраджэнскія ідэалы. Нацыянальная калатнеча і «класавая барацьба» ў другой палавіне 2О-х гадоў спраакавана бальшавікамі адначасова ў БССР і Заходняй Беларусі. Усе беларускія партыі групаваліся вакол названых вышэй і некаторых іншых выданняў («Гоман» у Вільні, гродзенскія і інш. рэгіянальныя газеты), змагаліся за рэалізацыю беларускай ідэі ў яе дзяржаўна-палітычным аспекце — за стварэнне незалежнай і непадзельнай Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР) на этнічна беларускай тэрыторыі (галоўным чынам, паводле «Этнаграфічнай карты беларусаў» Я.Карскага з пэўнымі карэктывамі), зарыентаванай на культурную інтэграцыю ў Еўропе, эканамічны і палітычны саюз з Польшчай і прыбалтыйскімі дзяржавамі, захаванне эканамічных і культурных сувязяў з дэмакратычнай Расіяй на аснове раўнапраўя і нацыянальнага суверэнітэту. Урэшце, усе беларускія адраджэнцы імкнуліся стварыць незалежную Беларусь мірна і эвалюцыйным шляхам, мінаючы разбуральную сілу рэвалюцыі і братазабойчай вайны.

Такое спалучэнне шчырай памяркоўнасці з вальналюбствам газета «Вольная Беларусь» адзначыла ў праграмным артыкуле (1917, 21 мая ) як прыкмету нацыянальнай гісторыі, закончыўшы свой зварот да народа дэвізам «Жыве вольная Беларусь!» Тут жа, у першым нумары газеты яе рэдактар Я.Лёсік працягваў гутарку на тэму канца імперыі і пачатку новага, дэмакратычнага жыцця, звяртаўся да суайчыннікаў: «Моцна стойце на родным грунце!» А поруч Я—р (Ясакар, Зм.Бядуля) друкаваў «Дзесяць прыказанняў для памяці» кожнаму беларусу. Адным словам, працягвалася нашаніўская традыцыя выхавання нацыянальнай самасвядомасці. У шэрагу іншых артыкулаў, падпісаных крыптанімам Я.Л. (Я.Лёсік), ёсць антыкапіталістычная тэндэнцыя і ўпэўненасць у тым, што змаганне за дэмакратыю ў наш час будзе адбывацца на грунце нацыянальнага самавызначэння.

1О ліпеня ў Менску пачаўся з'езд дэлегатаў ад беларускіх партыйных і грамадскіх арганізацый, на якім за сталом прэзідыума супрацоўнічалі П.Аляксюк, тагачасны старшыня ЦК БСГ З.Жылуновіч, А.Лявіцкі. Большасць беларускіх лідэраў выказалася за нацыянальнае самавызначэнне ў рамках дэмакратычнай Расійскай федэрацыі. Настаўнікі, удзельнікі гэтага з'езда, аднавілі Беларускі Вучыцельскі Хаўрус, разгромлены царызмам у 1906 годзе. Сваёю мэтаю Хаўрус абвясціў беларусізацыю школы. Амаль да канца 1917 года газета «Вольная Беларусь» абмяжоўвалася нацыянальнай аўтаноміяй Беларусі, друкавала на гэтую тэму рэдакцыйныя артыкулы Я.Лёсіка, «Праект платформы беларусаў-аўтанамістаў», дзе прапаноўвалася палітычная аўтаномія Беларусі, стварэнне Беларускага Сойма, Рады, выбарнага суда, беларускай аўтакефальнай царквы, паступовая беларусізацыя адукацыі.

Аднак беларускія спадзяванні на расійскую дэмакратыю не спраўдзіліся. Газета «Вольная Беларусь» паведамляла: становішча ў Расіі пагаршаецца, нават немцы прызналі нацыянальную самастойнасць беларусаў, але толькі не Масква. У Расіі, адзначаў 1.Піліпаў, наверх вылазяць басякі і люмпены, расійцы не ўмеюць працаваць планамерна і сістэматычна, «праз усю гісторыю цягнуцца ў хвасце еўрапейскіх народаў» (1917, 9 кастрычніка). Рэдактар газеты ў артыкуле «Расійскае бязладдзе» (подпіс Я.Л-к) з горкай іроніяй пісаў пра спрадвечнае панаванне ў Расіі «Іаана Грознага і Грышкі Распуціна ў палітыцы ды Нікіты Пустасвята ў царкве і грамадскім жыцці» (1917, 17 кастрычніка).

Тым не менш нават тады не прапаноўвалася ідэя поўнай незалежнасці Беларусі. У артыкуле «Нашы патрэбы» Я.Лёсік пісаў: «Утварыўшы аўтаномны лад на Беларусі, мы станем паўнамоцнымі гаспадарамі на сваёй зямлі і атрымаем поўную магчымасць павярнуць усе скарбы нашага краю на карысць свайму народу, на свае нацыянальныя патрэбы» («Вольная Беларусь», 1917, 9 кастрычніка). Цэнтральная Рада беларускіх арганізацый рыхтавала Усебеларускі з'езд, але не адмаўлялася ад удзелу ў палітычным абнаўленні Расіі: у кастрычніку—лістападзе 1917 г. агітавала праз «Вольную Беларусь» галасаваць ва Устаноўчы сход Расіі за спісак кандыдатаў ад Беларускай Сацыялістычнай Грамады, сярод якіх А.Прушынскі, З.Жылуновіч, К.Міцкевіч (Я.Колас), А.Смоліч, Я.Лёсік, Я.Мамонька, Б.Тарашкевіч, Т.Турук, П.Бадунова, С.Рак-Міхайлоўскі, Р.Астроўскі.

Нават захоп бальшавікамі ўлады 7 лістапада 1917 года не прымусіў беларускіх лідэраў адмовіцца ад надзеі на дэмакратычную федэрацыю з Расіяй. Расійскае бязладдзе толькі змяніла тактыку: Я.Лёсік прапанаваў шлях федэралізацыі знізу: «Украінцы, беларусы і велікарусы, казацтва, Сібір і ўсе аб'яднаныя краі здолеюць кожны паасобку ўтварыць лад і грамадскі парадак, а ўпарадкаваўшы дома, патрапяць устанавіць і агульнадзяржаўны парадак праз сваіх прадстаўнікоў у Маскве і Петраградзе» (1917, 8 лістапада). Я.Лёсік нават абараняў бальшавікоў у час іх кароткай «дэмакратычнай восені» ад нагавору контррэвалюцыі. Небяспеку анархічнага бунту на Беларусі першым угледзеў З.Бядуля, актыўны супрацоўнік беларускага друку 1917—1921 гг. «Пара бараніцца», — пісаў ён, — і заклікаў: «Запісвайцеся ў Беларускае войска і бараніце свой родны край ад гібелі!» («Вольная Беларусь», 8 снежня).

У пачатку 1918 года на старонках беларускіх газет яшчэ вялася спрэчка, на якое аб'яднанне з Расіяй пойдзе Беларусь — федэратыўнае ці канфедэратыўнае. Яшчэ друкаваліся спачувальныя да Расіі матэрыялы, выкрываліся яе ворагі. І гэта пасля таго, як расійскія бальшавікі гвалтоўна спынілі легальны працэс палітычнага самавызначэння Беларусі ў рамках Расійскай федэрацыі — разагналі Усебеларускі з'езд 15—17 (28—3О) снежня 1917 года! Толькі створаная на З'ездзе Выканаўчая Рада ва ўмовах падполля пачала рыхтаваць канстытуцыйны акт найвялікшай важнасці — абвяшчэнне суверэннай Беларусі. А ў гэты час лёс яе вырашаў на брэсцкіх перагаворах з немцамі Л.Троцкі, які цынічна заявіў, што беларускай дэлегацыі ён не ведае. Здача гэтым «дыпламатам» Расіі на літасць ворагаў (газеты горка жартавалі, што бальшавікі абвясцілі ваенную забастоўку: Расія ваяваць не хоча, але і мірыцца не будзе) паскорыла палітычнае самавызначэнне Беларусі. Яго рыхтавалі беларускія партыі і групоўкі сацыялістычнай арыентацыі. У артыкуле «Увага да нацыянальнага руху» А.Прушынскі пісаў: «Сацыялістычны ўстрой — антытэза сучаснаму ўстрою... Сацыялістычная ідэя — гэта брадзільны пачатак новых кшталтаў жыцця» («Вольная Беларусь», 1918, 17 сакавіка).

Гістарычны сход Рады БНР у прысутнасці дэлегатаў віленскай Беларускай Рады А.Луцкевіча, І.Луцкевіча, Я.Станкевіча, старшыні фракцыі БСГ А.Смоліча адбыўся 24 сакавіка 1918 года ў Менску і працягваўся 16 гадзін. Пераважнаю большасцю галасоў (супраць выступілі 1О рускіх «земцаў», прадстаўнікі аб'яднанай яўрэйскай сацыялістычнй партыі і «Поалэй-Цыён» устрымаліся) была прынята і праз дзень апублікавана Устаўная Грамата да народа Беларусі. Гэта быў канстытуцыйны акт аб самавызначэнні Беларусі. Яна абвяшчалася вольнай і незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікай «у рубяжах рассялення і лічбеннай перавагі беларускага народа». Яе асноўныя законы мелася зацвердзіць на Устаноўчым сойме, скліканым на асновах агульнага, роўнага, простага, тайнага і прапарцыянальнага выбарчага права. Часовым урадам БНР абвяшчалася Рада Усебеларускага з'езда, дапоўненая прадстаўнікамі нацыянальных меншасцяў. Выканаўчая ўлада ўскладвалася на прызначаны Радаю Народны Сакратарыят. Гарантаваліся грамадзянскія свабоды, раўнапраўе, права нацыянальных меншасцяў на «персанальную аўтаномію», васьмігадзінны рабочы дзень. Урэшце новы прынцып аграрнай палітыкі: «У рубяжах БНР права прыватнай уласнасці на зямлю касуецца. Зямля перадаецца без выкупу тым, хто на ёй працуе. Лясы, азёры і нутро зямлі абвяшчаецца ўласнасцю БНР» («Вольная Беларусь», 1918, 31 сакавіка).

Абвяшчэнне БНР было гістарычнай неабходнасцю, лагічным завяршэннем беларускага нацыянальнага Адраджэння пачатку XX ст., палітычным увасабленнем нацыянальнай ідэі. Тагачасныя беларускія дзеячы, у сваёй большасці людзі гуманітарнай культуры — літаратары, публіцысты, філолагі і гісторыкі, сацыялістычна арыентаваныя паводле свайго светапогляду — хацелі правесці гэтую акцыю эвалюцыйным шляхам, захаваўшы эканамічныя, палітычныя і культурныя сувязі з Расіяй. Аднак усталяванне ў Расіі бальшавіцкай дыктатуры (а яна гратэскавым чынам дапаўнялася масавай анархіяй), пагром беларускіх дэмакратычных арганізацый вымусіла духоўных настаўнікаў беларускага народа прымяніць рэвалюцыйную тактыку, мабыць, не зусім «легітымную» ў полі зроку стабільнай еўрапейскай дэмакратыі. Газеты пісалі, што бальшавіцкая ўлада «з лёгкасцю пераняла ўсе фасоны самадзяржаўя», а ў такіх умовах паслядоўная дэмакратыя была б рамантычнай утопіяй.

Нерэальным аказаўся і яшчэ адзін праект — адраджэнне Вялікага княства Літоўскага, у якім бы Беларусь з Вільняю і Менскам натуральна аказалася б палітычным і культурным цэнтрам. Гэтая ідэя натхняла калісьці паўстанцаў К.Каліноўскага і самога Яську Гаспадара з-пад Вільні, аўтара «Мужыцкай праўды». У 1916—1918 гг. варыянты такога геапалітычнага праекта абмяркоўваліся ў асяроддзі віленскіх беларускіх лідэраў, адлюстроўваліся ў газеце «Гоман». Аднак такая ідэя не сустрэла падтрымкі ні з боку раздзеленай на варожыя блокі Еўропы, ні тым больш з боку Расіі. Акупацыйныя ўлады Германіі вясной 1918 года абвясцілі Літву «вольнай і незалежнай дзяржавай», далучыўшы да яе беларускую Віленшчыну. Украіна забрала паўднёвыя паветы Мінскай і Гродзенскай губерняў. На Гродзеншчыну прэтэндавала Польшча, на Віцебшчыну і Магілёўшчыну — Расія. Адным словам, нашу Маці-Беларусь, якая, як пісалася ў газетах, «нікога не чапала, ні на каго не нападала», рвалі на часткі.

Вось тады ў беларускім асяроддзі ўзніклі больш рэалістычныя ідэі: стварыць беларускую патрыятычную, нацыянальна свядомую армію, якая гарантавала б суверэнітэт Беларусі, але з улікам перспектыўных эканамічных і палітычных інтарэсаў заснаваць канфедэратыўны саюз Беларусі, Польшчы, Літвы, Латвіі, Эстоніі і, магчыма, Украіны. Гэты саюз багатых прыроднымі і людскімі рэсурсамі краін забяспечыў бы ўзаемавыгадную інтэграцыю эканамічнай прасторы, а ў ваенна-палітычным плане сумеў бы стварыць процівагу імперскім амбіцыям Расіі і Германіі.

Праект амаль два гады апрабіраваўся ў газетах «Беларускі шлях» і «Беларусь». Першая з іх была ў апазіцыі да Расіі і Польшчы. Палякі гандлююць беларускаю зямлёю, гаварылася ў адной з перадавіц, але гэта гандаль скураю мядзведзя, які гуляе ў лесе. Блізарукія палітыкі не зразумелі галоўнай падзеі XX ст. — абуджэнне «адсунутых» з гістарычнай авансцэны народаў. Была спроба «нямецкай арыентацыі» з мэтай супрацьдзеяння імперскім тэндэнцыям Польшчы і Расіі. Для германскай геапалітыкі самастойная Беларусь уяўлялася буферам паміж Расіяй і яе магчымымі «малодшымі» саюзнікамі — прыбалтыйскімі краінамі. Але «нямецкая карта» не ўдалася ў выніку версальскай капітуляцыі Германіі. Пачалася нялёгкая дыпламатычная праца дзеля міжнароднага прызнання БНР. Спрабавалі наладзіць сувязь з расійскай дэлегацыяй Х.Г.Ракоўскага ў Кіеве: ёй пасылалася нота Рады і Ўрада (Народнага Сакратарыята) БНР з надзеяй, што «сацыялістычны ўрад Савецкай Расійскай Рэспублікі, першы на свеце пацвердзіўшы на сваім чырвоным штандару свяшчэнны прынцып самавызначэння народаў, пойдзе насустрач беларускаму народу ў яго барацьбе за дзяржаўную самастойнасць, за сваё адзінства і цэласнасць сваёй зямлі і на гэтым палажыць моцныя асновы прыязнага спаўжыцця двух братэрскіх народаў» («Беларускі шлях», 1918, 12 чэрвеня). Ноту падпісалі вядомыя сёння беларускія вучоныя і палітыкі А.Цвікевіч і М.Доўнар-Запольскі.

Але ў бальшавіцкай Расіі ўжо выспяваў план рэстаўрацыі «Трэцяга Рыма»: цяпер ужо як

З гары спусціўшысь толькі ўніз,
Дарога пазнаецца...
Ў гары, на купале нам крыж
Маленечкім здаецца...

З гары уніз і знізу ўверх
Абман так і крадзецца,
Ў камуне грэх, у правых смех,
А людзям дастаецца.

## МУРАШНІК

Ў мурашнік кінуў я кусок цыгаркі,
Яна курэла дымам і агнём...
Зрабіў я гэта можа па-дзікарскі,
Але хацелась бачыць здарыцца
што ў ём...

З усіх бакоў, і з кожнае шчэліны
Мурашкі кідаліс ў агонь,
Жыццё губілі для дзяцей,
радзіны —
І кладзіс на цыгарку, як далонь.

І сумна і прыемна мне тут стала:
Я шкадаваў мурашак, як людзей —
Стварэнне гэтае сябе абараняла
І гінула за свой мурашнік і дзяцей.

Паміж людзьмі мы бачым
штось другое...
Для Бацькаўшчыны працаваць
ім стыд,
Ім дзесьці свеціць шчасце міравое,
А родны край няхай гарыць!..

## ТВОРЧАСЦЬ

Хто творыць, меж не знае...
Ці ж можна вольны дух загнаць
У рамкі формы, як схаластыка
гукае —
Над рыфмай нельга працаваць.

Яна, як дар, прыходзіць з неба,
Прад ёю ўсё ў той час маўчыць...
Нязнаўцы кажуць — мерка трэба, —
Дзе мерка, творчасць там маўчыць.

## ТАЕМНАЯ СМАГА

Душна мне, сэрца калоціць
Ў грудзі, як у браму ўначы,
Той, што лісты,-тэлеграмы разносіць,
Спаць не дае, хоць крычы...
Душу мне страх агартае,
Стыне у жылах і кроў...
Сэрца нічога не знае,
Цягнецца толькі дамоў.

## КНІГА

Прыемна над кнігай схіліцца
Ў кнігарні, ў музеі і знаць,
Што гэты прыяцель — забыцца —
Вам можа адзін толькі даць.

Магчымасць у кожну хвіліну
Не так, як вядзецца ў людзей —
У кнізе павага ёсць чыну,
Не рве яна сэрца з грудзей...

Тут дзеі мінулага ходзяць,
Я бачу ў іх продкаў сваіх,
Яны у жыццё мяне ўводзяць,
Бароняць ад поступаў злых.

Даюць мне напрамак і сілу
Змагацца за праўду, народ,
Каб мы, адыйшоўшы ў магілу,
Таксама маглі даць прыплод.

антыхрысціянскага плацдарма сусветнай пралетарскай рэвалюцыі. Беларускія лідэры разгадалі новае расійскае месіянства і пераарыентавалі сваю палітыку ў заходнім кірунку. Здаецца, Я-р (Зм.Бядуля) у артыкуле «Адносіны Беларусі да суседніх народаў» першым сказаў, што Беларусь — геапалітычны і культурны «мост» паміж славянамі і неславянскімі народамі Еўропы («Беларускі шлях», 1918, 11 ліп.).Беларускія кіраўнікі спрабавалі рэалізаваць гэтую ідэю ў складаных умовах польскай акупацыі краіны па Бабруйск і Бярэзіну на поўдні і Полацк на поўначы летам 1919 года. Першым аб сваёй прыязнасці да беларускага краю заявіў «начальнік Польскай Дзяржавы» Язэп Пілсудскі.Яго партрэт і фрагмент са звароту да жыхароў былога Вялікага княства Літоўскага друкаваліся ў першым нумары часопіса «Беларускае жыццё» (1919, 5 чэрвеня): «Стан безупыннай няволі, — казаў Пілсудскі, — які я, радзіўшыся на гэтай нешчаслівай зямельцы, добра ведаю, павінен, нарэшце, быць знішчожаны і ўжо ў гэтай, быццам праз Бога забытай старонцы павінна запанаваць свабода і права вольнай, нічым не звязанай гутаркі аб сваіх патрэбах... Хачу вам даць магчымасць развіваць унутраныя нацыянальныя і рэлігійныя справы гэтак, як самі таго захочаце, без ніякага гвалту або націску з боку Польшчы».

Зусім відавочна, што польскі ваенны дыктатар дыпламатычна абяцаў Беларусі культурна-нацыянальную аўтаномію, а не палітычны суверэнітэт. Але беларускія лідэры тлумачылі яго «мемарандум» на сваю карысць. І адказалі Пілсудскаму рэдакцыйным артыкулам у часопісе: «Толькі маючы ўласную дзяржаўнасць народ можа жыць нармальным жыццём, можа развівацца культурна і эканамічна. Жадаючы для сябе такіх варункаў жыцця, у якіх мы бы маглі жыць нармальна, мы будзем ісці выпрывала да нашай мэты, і ўсім тым, хто ў будове нашай дзяржаўнасці не будзе нам шкодзіць, працягваем руку і кажам: Хай будзе згода!»

З гэтага часу і да падзелу Беларусі паводле Рыжскага міру адбываўся нялёгкі, нават пакутлівы дыялог Беларусі з Польшчай. Беларускія лідэры спрабавалі выкарыстаць «беларускае паходжанне» Пілсудскага (у Польшчы яшчэ і сёння помняць, што іх правадыр гаварыў па-польску няправільна, з беларускім акцэнтам). У мемарыяле Віленскай Беларускай Рады да «галоўнакамандуючага польскага войска Язэпа Пілсудскага» выказвалася надзея, што ён «паможа аб'яднаць усю Беларусь і адбудаваць яе ў незалежную дзяржаву, суседнюю і дружную з Польшчай» («Беларускае жыццё», 1919, N1, с.7—8). Але наш «зямляк» не захацеў (ды і не мог) стаць беларускім Месіяй. Я.Пілсудскі на першым часе сапраўды захапіўся ідэяй адраджэння нейкага геапалітычнага аналага былога Вялікага княства Літоўскага, але хутчэй з тактычных меркаванняў, каб «бараніць Польскую Рэспубліку ад маскоўскай прагавітасці». Пра гэта вёў перамовы з Пілсудскім старшыня Цэнтральнай Беларускай Рады Віленшчыны і Гродзеншчыны Б.Тарашкевіч. Як адзначалася ў друку, «гутарка насіла цёплы, прыхільны характар», аднак Пілсудскі паабяцаў толькі стварыць беларускае войска для абароны краіны і прыхільна сустрэў падтрымку сваёй ідэі аднаўлення Беларуска-Літоўскай дзяржавы.

Стварэнне беларускай арміі зацягнулася, яна не паспела аформіцца ў моцную баявую сілу да польскага адступлення з Беларусі летам 192О года. Рэальным вынікам дыпламатычных пасьянсаў з Пілсудскім было хіба стварэнне прапагандысцкага антыбальшавіцкага блоку. Часопіс «Беларускае жыццё» прызнаў на пачатку 192О года: абяцанне Пілсудскага жыць з беларусамі «як вольныя з вольнымі, роўныя з роўнымі» не стала рэальнасцю штодзённай палітыкі. Праект аднаўлення Вялікага княства Літоўскага ва ўмовах польска-патрыятычнай «опініі публічнай» трансфармаваўся ў імперскі міф гістарычнай Рэчы Паспалітай як быццам бы толькі польскай нацыянальнай дзяржавы, адносна якой Беларусь заставалася «крэсамі», прыдатнымі да асіміляцыі. Еўрапейскія палітыкі, за выключэннем хіба што (ды і то няпэўна) германскіх, якія часова прыціхлі пасля версальскай катастрофы, не разбіраліся ў гісторыі Усходняй і Цэнтральнай Еўропы і па сутнасці заахвочвалі імперскія амбіцыі Польшчы, «легалізавалі» Версальскім мірам падзел Беларусі паміж яе суседзямі.

Здаецца, адзін Пілсудскі разумеў геапалітычнае значэнне нейкага падабенства адноўленай і «сяброўскай» Беларуска-літоўскай дзяржавы як стратэгічнага «буфера», які прыкрые Польшчу з Усходу. Беларускія палітыкі пераконвалі яго, што стварэнне «унітарнай» Польшчы «ад мора і да мора» нявыгадна для польскай нацыі, бо ў такім выпадку яна акажацца меншасцю ў сваёй «уласнай» дзяржаве. Аднак у геапалітычнай гульні «беларускай картай» Пілсудскага абыграла ўзброеная «ленінскай тэорыяй» нацыянальнага самавызначэння памяркоўная частка бальшавікоў, парадаксальна спалучанай з палярнай адносна яе канцэпцыяй сусветнага «пралетарскага інтэрнацыяналізму». 1 студзеня 1919 года яны дазволілі абвясціць на частцы Мінскай губерні мікра-БССР, паставіўшы на чале яе Часовага рабоча-сялянскага ўрада літаратара, аднаго з былых лідэраў БСГ З.Жылуновіча.

Забягаючы наперад, адзначу, што гэты тактычны манеўр удаўся: пашыраная пазней за кошт іншых усходнебеларускіх земляў БССР стала цэнтрам прыцягнення беларусаў у арбіту Савецкай Расіі. Польскія палітыкі адмовіліся ад сустрэчнага «геапалітычнага козыру». Больш таго, яны падавілі спробу аднаўлення на заходнебеларускіх землях Беларускай Народнай Рэспублікі і гэткай недальнабачнай палітыкай аб'ектыўна пераарыентавалі беларускую ідэю з «заходняга» на «ўсходні» кірунак. У выніку самавызначэнне Беларусі зацягнулася да канца нашага стагоддзя. Але прайграла таксама Польшча і Заходняя Еўропа: іх адказ ад універсальнасці прынцыпу нацыянальнага самавызначэння прывёў у рэшце рэшт да Другой сусветнай вайны.

Цэлы год (з ліпеня 1919 па ліпень 192О, да варшаўскага прарыву Чырвонай Арміі) беларускія дзеячы, крытыкуючы «эндэцкую» (партыя «народных дэмакратаў») палітыку Польшчы, супрацоўнічалі з «лініяй ППС» (польскай сацыялістычнай партыяй), да якой належаў і Пілсудскі. Гэты перыяд беларускай гістарычнай драмы грунтоўна адлюстраваны ў штодзённай газеце «Беларусь», найперш у палітычнай публіцыстыцы Янкі Купалы, Алеся Гаруна. З.Бядулі, Я.Лёсіка, А.Луцкевіча, Б.Тарашкевіча, урэшце, усяго беларускага гуманітарна-палітычнага асяродку. Галоўная думка заключалася ў тым, каб, абапіраючыся на геапалітычную зацікаўленасць Пілсудскага ў прадухіленні саветызацыі Беларусі, падвесці пад ідэю БНР рэальную аснову, стварыць дзяржаўныя і ваенныя гарантыі яе суверэнітэту. «Больш самачыннасці» — так назваў Купала свой артыкул-перадавіцу, дзе крытыкаваў славутую беларускую «лаяльнасць», а па сутнасці бязмерную цярплівасць і містычнае чаканне, што «нехта прыйдзе» і прынясе беларусам волю» («Беларусь», 1919, 29 снежня).

Палітычная, як, дарэчы, і літаратурна-мастацкая, думка гэтага перыяду амаль не вывучалася. Наперадзе даследчыкаў чакае значная тэксталагічная праца, яе вынікам могуць стаць цэлыя тамы невядомых чытачу твораў беларускіх пісьменнікаў. Па сутнасці 1917—192О гг. — гэта завяршэнне беларускай літаратурнай класікі («Новая зямля» і «Сымон-музыка» Якуба Коласа, прарочая лірыка Янкі Купалы, «Матчын дар» Алеся Гаруна, публікацыя «Пінскай шляхты» В.Дуніна-Марцінкевіча), станаўленне беларускага прафесійнага тэатра, дэталёвая распрацоўка беларускай ідэі ў аспектах эканамічных, палітычных і светапоглядных. Для сённяшняй Беларусі быў бы карысным вопыт стварэння Беларускай нацыянальнай арміі ў 1919—1920 гг. Нават эскізы ваенных касцюмаў і сімвалаў розных родаў войск былі апісаны ў газеце «Беларусь» (1919, 11 лістапада).

У лістападзе 1920 года пасля рыжскага перамір'я Расіі з Польшчай фрагменты гэтай яшчэ нястворанай арміі без надзеі на поспех атакавалі на Случчыне Чырвоную Армію, разлічаную на прарыў у Еўропу праз Польшчу. Аднак важным быў прынцып сам па сабе, гістарычны прэцэдэнт, які ўпершыню падмацаваў беларускую нацыянальную ідэю гатоўнасцю паміраць у няроўнай бойцы.

Рыжскі мір 18 сакавіка 1921 года быў завязкаю новай беларускай драмы. Яна закончылася ў 30-я гады бальшавіцкім падаўленнем нашай духоўнай эліты, носьбітаў нацыянальнай ідэі. Беларускія палітычныя дзеячы 1917—1921 гг. былі амаль цалкам знішчаны, за выключэннем хіба тых; хто паспеў памерці або замаскавацца ў расійскай глыбінцы. Хвалі рэпрэсій паўтараліся адна за адной і «змылі» ў 1930—1940 гг. заходнебеларускіх дзеячаў.

Восенню 1918 года Янка Купала працаваў у савецкім Смаленску. Там ён напісаў прарочы верш «Сон». Сімвал Бацькаўшчыны, Маці, просіць паэта-сына «заглянуць у соннік», каб адгадаць яе сон:

**Прысніўся мне сасоннік**
**Такі густы-густы.**
**Па ім ішла я ўночы.**
**За мною зводы йшлі**
**І зазіралі ў вочы,**
**І ціснулі к зямлі.**
**Шапталі штось над вухам,**
**Спляталі плот з імгліц,**
**Абхутывалі пухам**
**Сасонніцных імгліц.**
**Вадзілі па канавах,**
**Заломах, бадылях,**
**Па хворастах крывавых,**
**Распаленых вуглях.**
**Далей вялі адтуля**
**Між пнёў гнілых кам'я,**
**Дзе спіць твая бабуля,**
**Дзе маці спіць мая.**
**Кіўнулі на абліплы**
**Спляснеўшым мохам крыж,**
**Захіхікалі сіпла**
**І счэзлі недзе ўвыш.**
**За імі і сасоннік**
**Захіхікаў глухі.**
**Дык глянь, сынок, у соннік,**
**Што значыць сон такі?**

Жудасны прывід Курапатаў! Беларускі Апакаліпсіс. Але сёння Беларусь, як міфічная птушка Фенікс, зноў вяртаецца да жыцця. Будзем спадзявацца, што адродзіцца спрадвечная праўда, Бог верне нашай Бацькаўшчыне, як некалі шматпакутнаму Іову, яе славу і багацце. І вечную памяць пра яе дзяцей-пакутнікаў.

Сучасныя праблемы беларускай ідэі — тэма асобнага нарыса. А сёння, за месяц да Вялікага дня Уваскрашэння, трыумфальна ўсклікнем разам з апосталам Паўлам: «Смерць! Дзе тваё джала? Пекла! Дзе твая перамога?»

# ПАМЯЦІ Д.ФАКТАРОВІЧА



28 лютага ў Маскве, пасля цяжкай хваробы, памёр Давід Яўсеевіч Фактаровіч. Яго жыццёвы шлях і навуковая дзейнасць цесна звязаны з культурай Беларусі, з адраджэннем Беларускага дзяржаўнага універсітэта ў цяжкія пасляваенныя дзесяцігоддзі. Малады кандыдат філалагічных навук, спецыяліст па замежнай літаратуры, ён прыехаў 6 ліпеня 1944 г. у зруйнаваны Мінск, каб арганізаваць філалагічны факультэт. Дзейнасць Д.Я.Фактаровіча пачалася з пошукаў на папялішчах адпаведных будынкаў для размяшчэння факультэтаў універсітэта. А каб замацаваць будынкі за універсітэтам, на іх вывешвалі шыльды «міны»...

Д.Я.Фактаровіч нарадзіўся 23 верасня 1917 г. Прафесійную адукацыю ён атрымаў у 2-ім Маскоўскім дзяржаўным універсітэце, пазней пераўтвораным у педагагічны інстытут. У 1941 г. абараніў кандыдацкую дысертацыю па тэме «Навелы Сервантэса». Дасканала валодаў нямецкай мовай, а таксама цэлай групай раманскіх моў (іспанскай, італьянскай, французскай) і таму ў другі дзень вайны даў згоду, каб яго накіравалі за лінію фронту. Але з-за дрэннага стану здароўя атрымаў іншае прызначэнне і, пасля кароткатэрміновага прабывання ў маскоўскім апалчэнні, працаваў у Свярдлоўскім універсітэце.

З 1944 г. Д.Я.Фактаровіч працаваў у Беларускім дзяржаўным універсітэце: у 1945 - 47 гг. — дэканам факультэта журналістыкі, а з 1947 да 1965 г. — загадчыкам кафедры замежнай літаратуры, дацэнтам.

Д.Я.Фактаровіч з'яўляецца аўтарам шматлікіх навуковых публікацый, манаграфій, падручнікаў, артыкулаў. Сярод іх — кнігі «Беларуская савецкая літаратура за мяжой», «Мировая известность белорусской литературы», «Чэшска-беларускія літаратурныя сувязі», «Замежная літаратура ў перакладах на беларускую мову», «Зарубежные литературы (Средние века, Возрождение, XVII век)». У гэтых і іншых працах ім даследаваны праблемы ўзаемных сувязей і ўзаемадзеяння літаратур, пытанні тэорыі мастацкага перакладу. На старонках газеты «Літаратура і мастацтва» ён часта выступаў з рэцэнзіямі на прэм'еры мінскіх тэатраў.

Д.Я.Фактаровіч з годнасцю прайшоў праследаванні ў часы «барацьбы з касмапалітызмам».

З 1965 г. Д.Я.Фактаровіч працаваў у Маскве. Шырокая адукаванасць, еўрапейскі ўзровень культуры дазволілі яму паспяхова працаваць да выхаду на пенсію (у 1989) над актуальнымі праблемамі вышэйшай адукацыі ў НДІ праблем вышэйшай школы, а пазней у інстытуце «ГипроВУЗ».

Вучні, сябры і былыя супрацоўнікі памятаюць Д.Я.Фактаровіча, яго бліскучыя лекцыі, самаадданасць навуцы. Як чалавек ён вызначаўся сумленнасцю, шчырасцю, дабрынёй, шчодрасцю.

ГРУПА СЯБРОЎ І ВУЧНЯЎ

**Саюз пісьменнікаў Беларусі выказвае глыбокае спачуванне пісьменніку, галоўнаму рэдактару часопіса «Крыніца» Уладзіміру Пракопавічу Някляеву з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці маці.**

**Выказваем шчырыя спачуванні Аляксандру Яўгенавічу ПЯТРОВІЧУ, начальніку Упраўлення культуры Мінскага гарвыканкама, і яго ным блізкім з прычыны вялікага гора — смерці роднай матулі. Шаноўны Аляксандр Яўгенавіч! Тэатр «Дзе-Я» смуткуе разам з Вамі.**

**Калектыў рэспубліканскага Белвідэацэнтра смуткуе з прычыны смерці старэйшага работніка Аркадзя Іванавіча ТАРАСЕВІЧА і выказвае спачуванне яго родным і блізкім.**

# ВЯДОМЫ АДНЫМ ВЕРШАМ

У XIX стагоддзі на літаратурнай ніве працаваў таленавіты паэт, які, падобна Паўлюку Багрыму, вядомы сёння толькі адным беларускім вершам. Гэта Ялегі Пранціш Вуль (сапраўднае прозвішча Карафа-Корбут; 1835 — 1880 гг.), дробны віцебскі службовец, удзельнік паўстання Каліноўскага, паплечнік і аднадумец Арцёма Вярыгі-Дарэўскага, у слынны альбом якога і быў упісаны ў сакавіку 1853 года вершавы зварот «К дудару Арцёму ад наддзвінскага мужыка». Вядомы даследчык Г.Кісялёў адзначыў мастацкія вартасці гэтага твора, які выразна адрозніваецца ад вершаў іншых тагачасных аўтараў «дасканаласцю формы, паэтычнай сімволікай, натуральнасцю і чысцінёй мовы». Дададзім, што, акрамя таго, ён вылучаецца цікавай кампазіцыйнай будовай і нетыповым ідэйным гучаннем, а гэта падкрэслівае неардынарнасць асобы паэта, які яшчэ ў сярэдзіне мінулага стагоддзя заклікаў пісаць па-беларуску, верыў у лепшую будучыню свайго народа, росквіт яго літаратуры:

**Грудзяй цэлай гудзі смела**
**На ўвесь мужыцкі свет, —**
**Што пасееш, будзе цэла,**
**Будзе некалі і цвет...**

Лёс паэта быў трагічны, як і большасці беларускай інтэлігенцыі, якая брала ўдзел у паўстанні. Па сутнасці, за адзін толькі намер змяніць наяўны стан рэчаў (да актыўных збройных дзеянняў на Віцебшчыне справа не дайшла) — арышт, суд і высылка ў Сібір. Захаваліся звесткі, што пасля вызвалення, у стагнацыйныя для беларускай літаратуры гады, Вуль жыў у Варшаве, дзе блізка сышоўся з В.Каратынскім і А.Плугам. У вершы Вярыгу-Дарэўскаму паэт амаль прароча прадвызначыў і сваю будучыню:

**Крыкнуць на цябе паноўе,**
**Што ты шкоднік і місцюк, —**
**Страціш голас і здароўе**
**І дуду упусціш з рук.**

З апублікаваных у апошні час Г.Кісялёвым матэрыялаў стала вядома, што выключныя літаратурныя здольнасці Вуля праявіліся вельмі рана, мы тое-сёе даведаліся і аб сям'і Карафа-Корбутаў , але і сёння нашы веды пра асобу, погляды і творчасць паэта вельмі абмежаваныя. Таму і хочацца пазнаёміць чытачоў з яго карэспандэнцыяй, змешчанай у 1860 годзе ў варшаўскай «Газэце цодзеннэй», рэдактарам якой у той час быў славуты Ю.І.Крашэўскі (пераклад з польскай мой. — І.З.).

Гэта невялікі допіс, у якім зафіксаваны бягучы стан культурнага жыцця «адукаваных» жыхароў губернскага Віцебска. Аповяд вытрыманы ў мяккім іранічным тоне, што разам з агульнай стылістычнай адметнасцю і даволі займальным зместам выгадна вылучала гэту своеасаблівую справаздачу з газетных матэрыялаў падобнага роду і сведчыла аб белетрыстычным таленце Вуля.

Змест карэспандэнцыі дадае новы, дагэтуль невядомы штрышок да ўвогуле слаба акрэсленага вобразу наддзвінскага мужыка — гэта яго гарачая зацікаўленасць тэатральнымі справамі, у сувязі з чым можна меркаваць, што пяру паэта маглі належаць і драматычныя творы ці, прынамсі, звязаныя нейкім чынам з тэатралізаваным дзействам. Аўтар, магчыма, аддаючы даніну часу, калі ў сялянскім асяроддзі шырыўся рух цвярозасці, скажам мякка, не ўхваляе п'янства, лайдацтва і карцёжныя гульні. Згадаем, што асуджэнню гэтых чалавечых грахоў было прысвечана шмат твораў беларускай літаратуры мінулага стагоддзя, якія сёння лічацца ананімнымі. Інтэлектуальнай нямогласці і абыякавым адносінам да рэчаіснасці карэспандэнт, дзіця эпохі фатаграфіі, чыгунак і тэлеграфа, хацеў бы супрацьпаставіць актыўную грамадскую дзейнасць і рэальную дабрачыннасць.

З допісу вынікае, што А.Вярыга-Дарэўскі, дзякуючы сваёй асветніцкай чыннасці, меў у той час у віцьблян вялікі аўтарытэт, асабліва сярод моладзі, і лічыўся ўжо тады прызнаным літаратурным творцам. Вуль з вялікай павагай ставіўся да свайго старэйшага сабрата па пяру, а гэта часткова пацвярджае меркаванне аб непасрэдным уплыве Беларускай Дуды (псеўданім Вярыгі) на яго творчасць.

Не лішнім будзе нагадаць, што імя Вуля і сёння фігуруе ў спісе найбольш магчымых аўтараў паэмы «Тарас на Парнасе». Ці не напомніць паважаным чытачам атмасфера ў асяроддзі віцебскай інтэлігенцыі, апісаная наддзвінскім мужыком, тыя ярка абмаляваныя норавы парнаскіх багоў, што паўсталі перад вачыма палясоўшчыка Тараса? Ва ўсякім выпадку, далейшыя пошукі матэрыялаў, што непасрэдна выйшлі з-пад пяра паэта, здаецца, могуць дапамагчы атрыбутыцы не аднаго ананімнага твора XIX стагоддзя.

**Ігар ЗАПРУДСКІ.**

## КАРЭСПАНДЭНЦЫЯ «ГАЗЭТЫ ЦОДЗЕННЭЙ»[1].

***Віцебск, 21 чэрвеня 1860 г.н.с.***

Якім жа вам падасца голас з Віцебска сярод аркестра шматлікіх галасоў, якія злятаюцца да вас з усіх куткоў Еўропы? Але чаму б вам не ведаць, як і мы тут жывём? Сталага тэатра, дзе б мы маглі бачыць уласныя дагератыпы ў камедыі і вартыя прыклады ў драме, у нас няма.

Заблудзіць калі-нікалі кампанія вандроўных актораў, якая гучна назавецца трупай драматычных артыстаў, пакажа, што ўмее і чаго не ўмее, не задаволіць ні нас, ні сябе, запазычыцца па вушы і па чупрыну, перасварыцца паміж сабой і з публікай ды распаўзецца ў розныя бакі, наракаючы на горад, які не цэніць талентаў і пераважна наведвае Броза і Залмана за-за баваркі[2] (і ў нас баварка, што за прагрэс!) і катлет, а не тэатр, дзе можна нечаму навучыцца ды, прынамсі, прыстойна прабавіць час. Зрэшты, гэта шчырая праўда, што більярд, напоі, катлеты і карты больш прывабныя для нас за дрэнную п'есу, якую іграюць у правінцыйным тэатрыку часцей вельмі пасрэдна і рэдка калі ніштавата. Таму не дзіва, што акторы, пакінутыя ўсімі, без гроша, жывуць і п'юць з гора ў крэдыт, пакуль не збанкрутуюць дарэшты і не ўцякуць з горада, старанна атросшы ад пылу свой абутак і адзенне, якія свецяць дзірамі.

А сапраўды, маглі б і мы адважыцца на нешта добрае, калі б толькі шчыра захацелі, мелі б і сталы тэатр і публічныя бібліятэкі, лепшыя чым у кнігапрадаўца, які, гандлюючы старымі раманамі (новых вельмі няшмат), здзірае за чытанне штомесяц па 1 1/4 р.ср., хоць, зрэшты, яму не вельмі многа з таго перападае, бо ў summa summarum[3], кажуць, нібы 1 1/2 чытача.

Ды і жывы прыклад маем перад вачамі. Беларуская Дуда (Арцём Дарэўскі-Вярыга), які знаходзіцца ў нашым горадзе, без адпаведных сродкаў і дапамогі каго з больш заможных, сам, адзін адкрыў для публікі сваю бібліятэчку, якую доўгія гады збіраў (каля 700 тамоў) ды час ад часу, па магчымасці, дапаўняў навінкамі і, не зважаючы на тое, што не адзін і дарагі твор стаўся ахвярай нядбальства і легкадумнасці не аднаго чытача, прыцягвае да сваіх шаф моладзь, якую яму найбольш пастаўляе так званы с я р э д н і клас нашага насельніцтва. Большасць чытачоў у падзяку за гэтае духоўнае дабрадзейства як можа падтрымлівае кнігазбор, даючы, напрыклад, на кнігі штомесяц па 40 кап. Але дзе ж нам таго дабіцца, калі не маем настойлівасці, калі не маем волі, калі папросту гультаі: пераважная частка нашай моладзі мае і шчырыя сэрцы, і добрыя прынцыпы, але нічога не робіць, ужо і тое вельмі добра, калі ў вольны ад службы час на хвілінку адарвецца ад картаў і келішка ды прачытае што-небудзь з названага кнігазбору, выцягнуўшыся на матрацы ці пярыне.

Клуб, які нядаўна займелі, з жалем трэба прызнаць, ні да чаго нас настолькі не праявіў як да картачнай гульні ды бахусавых уцех. Так зараз у лепшым выпадку, спім, калі старэйшая наша брацця[4] вучыцца і прагрэсіруе. Абуджаемся, праўда, да працы, але гэта доўжыцца літаральна толькі адну хвілінку; пасля чаго зноў засынаем, даводзячы ясна, як на далоні, што маем агонь, маем шчырыя сэрцы, але не хапае нам сталасці, але ахвоты да працы як на лякарства.

Што да прыгожага полу, аб ім скажам асцярожна і далікатна, як сама прыстойнасць ды павага да кветак — з руж і цернеў — кароны роду людскага патрабуе. П е к н ы я нашы Пані (нельга сказаць інакш) таксама наведваюць клубныя балі, дзе танцуюць з вялікай самаахвярнасцю, смела выдаткуючы цяжка і лёгка зароблены грош сваіх мужоў, бацькоў і братоў на крыналіны, кветкі, забаўкі, шалі, карункі ды іншыя неабходныя прадметы; дома, у коле сяброўак, яны бавяць час прыстойна, спакойна і ціха — за плёткамі, з мэтай падрыхтоўкі грамадскай думкі аб рэчах і асобах, а часам зымправізуюць аматарскі тэатр ці канцэрт на карысць бедных або на парафіяльны пабернардзінскі касцёл св. Антонія.

Чаго ж больш чакаць? Зласлівыя Катоны[5] гавораць, што нашы дамы жаданне пазабаўляцца і пафранціць прыаздабляюць у выгляд дабрачыннасці, а за межамі тэатраў і канцэртаў іх любоў да бліжняга спачывае на лаўрах. Для агульнай радасці мушу прызнаць, што п е к н ы я (да канца буду галантным) нашы пані любяць чытаць кніжкі і штораз большай масай адмаўляюцца ад кепскіх французскіх раманаў. Яны размаўляюць на роднай мове, можа, часцей, болей ды нават і лепей чым па-французску, і так, нягледзячы на сваю эфірную лёгкасць, хоць чарапашым крокам, але рухаюцца наперад, цягнучы за сабой разаспаных вусатых і барадатых прадстаўнікоў сілы, мужнасці і волі нашай малалікай грамады.

Дзякуй вам і за тое што ёсць, з часам ,можа, будзе лепш.

**Э.Ф.Вуль.**

---

*[1] «Газэта цодзенна». — 1860, № 188. (Тут і далей заўвагі нашы .— І.З.)*

*[2] Засалоджаная гатаваная вада з малаком.*

*[3] Канчатковы вынік (лац.).*

*[4] Жыхары Царства Польскага.*

*[5] Магчыма, маецца на ўвазе аўтар крытычных заўваг у адной з рускіх газет адносна віцебскіх дабрачынных вечароў, у якіх браў удзел Карафа-Корбут.*



**Марцін КОЎЗКІ**

# ДОЛЯ ПРАЎДЫ

— Што нас раўняць з 1913 годам, — абураліся некалі крытыкі, — якое тады было жыццё...
— Што нас раўняць з 1913 годам, — сказаў нядаўна сусед, — якое цяпер жыццё...
Як мяняюцца погляды! Ці гэта час мяняецца?

●

У адной краіне па шаблону праходзілі агульныя сходы — доўгія справаздачы, штатныя прамоўцы, маўклівая большасць, пустыя пастановы. Абрыдла ўсё...

— Давайце жыць па-новаму, — прапанаваў нехта, — ганаровыя прэзідыумы не выбіраць, прамоўцаў не назначаць, справаздачы не слухаць, а друкаваць загадзя і наогул збірацца не так часта — працаваць няма калі.

Прапанову наконт ганаровага прэзідыума падтрымалі, бо няясна, каго выбіраць, па астатніх пытаннях вырашылі правесці рэферэндум.

●

Гаспадыні на заметку: спроба навесці парадак там, дзе запанаваў хаос, толькі расхіствае парадак і павялічвае хаос.

●

Высветлены цені, абноўлены здані. Дэсталінізаваны Ленін, дэленінізаваны Сталін. Зманлівыя агеньчыкі замільгалі ў чароце, зрабілі свой выбар, людзі на балоце?

●

На экранах мы са сваімі радасцямі і бядотамі, падзеі і даты дакладна абазначаны. Але якімі ж лічаць нас ідыётамі, калі меркаваць па гэтым самым тэлебачанні.

●

Стыль выканання не прыхамаць, не дырыжорскі напал. Усё спакваля зададзена, праяўляецца адразу. Паспрабуйце праспяваць без грукату «Інтэрнацыянал», і вы ўмомант адчуеце скрыгат хадульных сказаў. Нельга адвергнуць вечнае словамі нечалавечнымі.

ЛіМ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ І МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА

ГАЛОЎНЫЯ РЭДАКТАРЫ:

| | |
|---|---|
| Х.ДУНЕЦ | (1932-35) |
| І.ГУРСКІ | (1935-41) |
| А.КУЛЯШОЎ | (1945-46) |
| М.ГОРЦАЎ | (1947-49) |
| П.КАВАЛЁЎ | (1949-50) |
| В.ВІТКА | (1951-57) |
| М.ТКАЧОЎ | (1957-59) |
| Я.ШАРАХОЎСКІ | (1959-61) |
| Н.ПАШКЕВІЧ | (1961-69) |
| Л.ПРОКША | (1969-72) |
| Х.ЖЫЧКА | (1972-76) |
| А.АСІПЕНКА | (1976-80) |
| А.ЖУК | (1980-86) |
| А.ВЯРЦІНСКІ | (1986-90) |

Галоўны рэдактар Мікола ГІЛЬ

РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:
Святлана БЕРАСЦЕНЬ, Андрэй ГАНЧАРОЎ (нам. галоўнага рэдактара), Юрась ЗАЛОСКА, Міхась ЗАМСКІ, Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ, Барыс ПЯТРОВІЧ (адказны сакратар), Юрась СВІРКА

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмная рэдакцыі -- 33-24-61; намеснік галоўнага рэдактара -- 33-25-25; адказны сакратар -- 33-19-85; аддзелы: публіцыстыкі -- 33-25-25, пісьмаў і грамадскай думкі -- 33-19-85, літаратурнага жыцця -- 33-24-62, крытыкі і бібліяграфіі -- 33-22-04, паэзіі і прозы -- 33-22-04, музыкі -- 33-21-53, тэатра, кіно і тэлебачання -- 33-21-53, выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў -- 33-24-62, навін -- 33-19-85, мастацкага афармлення -- 33-24-62; фотакарэспандэнт -- 33-24-62; бухгалтэрыя -- 26-86-40.

*Пры передруку просьба спасылацца на "ЛіМ". Рукапісаў рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*

*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з думкамі і меркаваннямі аўтараў публікацый.*

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку"

Індэкс 63856. Тыраж 15.000.
Нумар падпісаны 18.03.1993 г.

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12